*Добры дзень, паважаная рэдакцыя!*

*Не хацелася б свой ліст пачынаць банальнымі словамі, але, здаецца, шчырыя словы ніколі ня стануць зацёртымі. Так, менавіта дзякуючы «Нашай Ніве» фармуецца абектыўны погляд на жыцьцё Беларусі ў «паралельным часе». Менавіта дзякуючы «Нашай Ніве» пачынаеш усьведамляць, што сёньняшняя ўлада ў Беларусі — гэта толькі «вяршыня айсбэргу», а карані трэба шукаць нашмат глыбей. І, нарэшце, дзякуючы «Нашай Ніве» адчуваеш сапраўдную мілагучнасьць і прыгажосьць роднага слова. Бо, нягледзячы на ўсю павагу да моваазнаўчага падыходу да гэтай праблемы, нельга не пагадзіцца, што менавіта «тарашкевіца» гучыць сапраўды самабытна і мілагучна ў параўнаньні з «наркомаўкай».*

*Вялікі дзякуй яшчэ раз за вашую нялёгкую працу.*

*З павагай,*

**Людміла Гулюк, Баранавічы**

# Credó лемінгаў

У шапіку каля аптэкі куплю «Нашу Ніву». Недзе робяць тое самае яшчэ тры тысячы дзівакоў. Каб мець магчымасьць сказаць сваё беларускае: «Я ёсьць!», яны выпускаюць і чытаюць сваю газэту.

Пра яе ня ведаюць дзесяць мільёнаў грамадзянаў Беларусі. Пра яе ня ведаюць сем мільёнаў пашпартных беларусаў. Пра яе ня ведае мільён беларусаў, што на рэфэрэндуме галасавалі за сваю мову і сьцяг.

У невядомай нацы газэце напісаў Павал Севярынец пра сваю нацыянальную ідэю. Гэта файна. Гэта тыпова. У мяне таксама ёсьць някепская нацыянальная ідэя. Час заняцца іманэнтнай і пэрманэнтнай крытыкай дыскурсу й кантэксту, аналізам мэнтальнасьці й танальнасьці, гермэнэўтыкай, прапэдэўтыкай і ўсімі астатнімі трансцэндэнтнымі жыцьцю штукамі нашага адзінага выданьня й ягоных самотных, але ўпартых чытачоў.

Здаецца мне, што пра першы сходняк рэвалюцыянэраў у Менску нацыя даведалася хіба што з «Кароткага курсу гісторыі ВКП(б)». Ня ведала яна і пра ад'езд з Магілёва цара-бацюхны. Да падзеяў у Віскулёх таксама мала спрычынілася, бо нікога туды не пасылала й не запрашала. Яна спрадвек не зважала на розную валтузьню, балазе хапала ўласных праблемаў.

Людзям увесь час даводзіцца працаваць і гадаваць дзяцей. А калі слухаць усіх начальнікаў, рэвалюцыянэраў і іншых, дык на сваё часу не застанецца.

Волатам і героям увесь час карціць праведныя войны весьці, палацы будаваць. Каб гінуць на войнах і на будоўлях у іх часу не застаецца. А ў тых, каго яны прымусілі ці спакусілі, не застаецца часу, каб рабіць сваё, марыць і кахаць. Ён жа не адзін, мабыць, пёрся з Усходу на Захад у 13 стагодзьдзі, той Тамэрлян, ці то Чынгіс-хан.

Навошта беларусу іхняя цэнтралізацыя й інквізыцыя. Зь ведзьмаком можна й самому разабрацца. Гэтак і рабілі. Усё гэтак рабілі. Сапраўды, бязь межаў. Там, дзе не перашкаджалі рабіць тое, што самому хацелася, а ня тое, што мусіў зь нечай волі. Пераўтваралі сябе. Гэта высака ацэньвалі падданыя дэспатыяў.

Натуральна, што дэспаты вар'яцелі ад уласнай нязданнасьці прымусіць нашых людзей марыць аб велічы імпэрыяў, ды й шчыра, з уласнай волі ахвяраваць нешта тым імпэрыям. Зь беларусаў як ні зьдзекаваліся, а яны ўсё працягвалі жыць дзеля сябе й сваіх дзяцей. Жыць як ім самім хочацца. А імпэрыі й правадыры заставаліся заўсёды альбо сродкам, альбо перашкодай на шляху да ягоных мары.

А будаўнікі імпэрыяў усё ніяк не супакояцца, усё спрабуюць пераканаць, што я за нешта павінен адказваць: за посьпехі сацыялістычнага будаўніцтва, за Адраджэньне, за вынікі выбараў, за мову, за сэрбаў, за рынкавы сацыялізм, за нейкую трасу, за аднаго беларуса, што зь дзяцінства марыў стаць самым галоўным.

Яму гэтак хочацца, ён гэтак і робіць. Абы мяне не чапаў. У гэтым сэнсе кожны беларус — глябальны фактар, бо ўпарты. Усё вызначаецца адно маштабам мары. Бо яму ніякім чынам не давесьці, што «гэтак ня робяць». Хіба маці пераканае, альбо жонка, альбо дзеці.

Пад канец свайго артыкула зусім дапёк мяне спадар Севярынец: «Беларусь чакае вялікая будучыня». Не! У чаканьні будучыні ёсьць нешта нэўратычнае.

Беларусь проста ЖЫВЕ. Яна ня МОЖА ведаць, калі нарадзілася, яна ніколі не зьбіралася й не зьбіраецца паміраць. Бо людзі, што насяляюць краіну, у большасьці сваёй імкнуцца ЖЫЦЬ ДЗЕЛЯ СЯБЕ.

А хто хоча жыць інакш у нашай краіне, жыве цяжка. Як сабе хоча.

Дарэчы, ёсьць такія маленькія зьвярунчыкі — лемінгі. Яны зьбіраюцца ў вялізныя чароды й разам ідуць тапіцца. Мабыць ня ўсе, бо ўжо даўно б зьвяліся. Мне больш даспадобы тыя, што ня йдуць з усімі, а працягваюць грызьці сваю траўку. Навошта ім быць тапельцамі, аленямі ці ваўкамі, калі можна быць тым, кім ты ёсьць.

Навошта нам быць кімсьці, калі найлепей быць беларусам?!

А ў астатнім — усё, як у Пазьняка.

**Павал Залескі, Менск**



*Šanoŭnaja «Naša Niva»!*

***Dasyłaju vam svoj list, i adrazu prašu zaznačyć, što jon nadrukavany na kamputary. Jak bačyçie, nadrukavany jon biełaruskaj łacinkaj, a nia niejkaj tam anhielska-biełaruskaj trasiankaj. Heta ŭsio chłuśnia, što na kamputary nielha karystacca biełaruskaj łacinkaj. Dla čałavieka, jaki choć kryšačku ŭmieje pracavać na kamputary, tut niama vialikich ciažkasciaŭ. Treba tolki mieć adpaviednyja šryfty. Dla vykarystoŭvańnia łacinki dastatkova skarystoŭvać centralna-eŭrapiejskija šryfty, prykładam, Times New Roman CE, jakim nadrukavany hety list. Takoj łacinkaj biez prablemaŭ možna karystacca i ŭ Internecie.***

***Prapanoŭvać novuju «eksperymentalnuju» łacinku mohuć ludzi, jakija tolki i ŭmiejuć, što ŭ hulni hulać na kamputary. Heta zdradniki, jakija, sutyknuŭšysia ź pieršymi ciažkasciami, užo hatovyja prynieści ŭ achviaru tupoj, biazhłuzdaj, nabitaj mikraschiemami skryncy Rodnuju Movu.***

***Chaču taksama adznačyć, što ŭsie nacyi biez prablemaŭ karystajucca kamputaram (navat kitajcy dy japoncy prystasavali kamputary pad svaje hierohlify). Narmalnyja ludzi zaŭsiody prystasoŭvajuć kamputary pad movu, a nie naadvarot — movu pad kamputary.***

**Jaŭhien Ùabasienka,**
**siabra Mahileŭskaj haradzkoj arhanizacyji Maùadziovaha Chryúcijanska-Sacyjalnaha Sajuzu**



Што з намі здарылася? Чаму гэтак сталася, што мы згубілі ўсе нашыя невялічкія набыткі? Калі гэта ўсё скончыцца?

Шмат такіх пытаньняў, але адказваць на іх няма анiякага сэнсу — калі пачнеш, дык у той жа момант згубіш цікавасьць да ўсяго: да жыцьця, каханьня і нават сьмерці. Відаць, так у нас, беларусаў, створаныя мазгі — каб мы былі разумнымі, старанна працавалі, а адказаць на пытаньні, якія тычацца нас саміх, ня можам.

Прыйдзеш увечары з працы дахаты, як заўжды вынеш з паштовай скрыні адну-дзьве апазыцыйныя газэты, прагледзіш, паразважаеш, якія ўсе дурні і што адзін толькі ты найразумнейшы, і адразу рука цягнецца, каб уключыць сапраўдны наркотык 20-га,стагодзьдзя — тэлевізар. Прыкладна праз дзвацаць хвілінаў прагляду разумееш, што тое глядзець немагчыма, бо расейскія навіны, Бора Маісееў, Шурб, гэта ўсё не для цябе, бо ты прагнеш свайго — беларускага. Тады ты зноў бярэш любімыя газэты, каб знайсьці там радзімыя, прыгожыя, шчырыя словы.

...Але што здарылася — у газэтах, якія прэтэндуюць на вядучую ролю ў беларускім адраджэньні, каля 65% артыкулаў надрукавана моваю, супраць якой, па-сутнасьці, яны муся весьці бойку. Навошта гэта? Каму гэта патрэбна? Якую нац. ідэю мы мусім ствараць такім чынам?

Зноў пытаньні, зноў няма чаго адказаць...

Вось такое, панове, атрымліваецца Адраджэньне. Цікава, што будзе далей? А-а! Ведаю. Будзе такая Незалежная Рэспубліка Пытальнікаў. Гербам краіны будзе, вядома, памастацку ўпрыгожаны пытальнік. Праз колькі гадоў і самі беларусы пачнуць спачатку здалёк, але й потым зблізку, нагадваць пытальнік. Цікавая атрымаецца нацыя. Галоўнае — звонку адметная, будуць усе пазнаваць, нават можна ганарыцца.

P.S. Вам не падабаецца такая будучыня? Мне дык не. Але што рабіць?

**Сяржук Быкаў, Менск**

# ЕДНАСЬЦЬ

Кожная жывёла, птушка, рыба і чалавек маюць сваю тэрыторыю пражываньня. Істоты, якія пражываюць на тэрыторыі, аб'ядноўваюцца нябачнымі пачуцьцямі еднасьці.

Еднасьць — такі духоўны стан, калі адушаўлёная істота любіць і разумее ўсё, што знаходзіцца вакол: лес, паветра, дарогу, траву, поле, дзяцей, што бягуць па сьцяжынцы ў школу, самаход, што пыліць па дарозе, хмары, што на імгненьне засланілі сонца і самое сонца...

Еднасьць ідзе ад разуменьня, ад любові...

Якую еднасьць, якую любоў можа прапанаваць нам Улада?

Любіць Расею, яе гісторыю, яе мову, яе пісьменьнікаў, яе перамогі й яе паразы — значыць, не любіць сябе, сваю мову, сваю гісторыю, сваіх продкаў, сваіх дзяцей, свой лёс, сваю дарогу, поле, сваё Сонца.

Калі не любіць сябе, значыць, не абараняць сябе, не клапаціцца пра сябе, гэта значыць — думаць і траціць свае разумовыя і фізычныя сілы на клопаты пра некага. Але так не бывае, кожная жывая істота ёсьць «суб'ектам аўтаномнага існаваньня», і яе найпершы абавязак, першы закон існаваньня — падтрыманьне свайго жыцьця на ўзроўні, неабходным для выжываньня і працягу роду. Спачатку мае «я» абавязана «ўсё» зрабіць для сябе, зрабіўшы гэта «ўсё», мае «я» можа нешта рабіць і для іншага, для сябра, таварыша, чалавецтва.

Калі мае «я», паміраючы ад голаду, аддае апошні кавалак іншаму «суб'екту аўтаномнага існаваньня», то гэтае «я» ня проста памыляецца, яно робіць злачынства. Апошні кавалак трэба аддаць сваім дзецям — як працягу свайго «я», жонцы — як палове свайго «я», чалавеку з свайго народу — больш карыснага для сябе, для ўмацаваньня свайго роду, і гэта высакародна, патрыятычна і прагматычна.

Цяперашняя антыўлада, карыстаецца ўсімі сродкамі кіраваньня, замбіруе нас, каб мы жылі не па законах любові, а па законах варожасьці. Але гэтыя законы варожасьці разбураюць еднасьць.

У гэтай супярэчнасьці — калі мае «я» ня любіць сябе, не абараняе сябе, не клапоціцца пра сябе, існуе Дамінанта Разбурэньня.

Д.Р. — гэта калі нашае «я» пачынае не любіць альбо страчвае пачуцьцё Бацькаўшчыны, ня ведае жыцьця сваіх продкаў, дзядоў і прадзедаў, і таму лёгка згаджаецца выконваць загады чужынцаў і разбурае старажытныя збудаваньні, зьнішчае асяродзьдзе, будуе сьвінакомплексы.

«Я» пераўтвараецца ў «яно», якое пачынае крок за крокам ісьці па дарозе разбурэньня. «Яно» пачынае не любіць суседзяў — адзін зь іх быццам бы захапіў 10 см яго гароду, другі чытае «Нашу Ніву», трэці шмат працуе і таму добра жыве. Потым «яно» пачынае не любіць жонку, яе радню, бо яны бурчаць і вымагаюць, каб «яно» займался справай, зарабляла грошы, умацоўвала дабрабыт сям'і.

Затым наша «яно» — ужо не чалавек, не «суб'ект аўтаномнага існаваньня», ня любіць сябе, сваё існаваньне, сваё пустое жыцьцё. За што яго любіць — гэткае жыцьцё. «Яно» пераўтвараецца ў алькаголіка, бамжа, наркамана, самагубцу.

Каляніяльная адміністрацыя хоча, каб мы былі еднымі з расіянамі, гэта значыць, з башкірамі, удмуртамі, казакамі, адыгеямі,

тулякамі і сібіракамі. Але маё «я» ня можа быць едным нават з рускімі — яны вялікія, мы малыя. Яны азіяты, мы эўрапейцы.

Мы хочам Любові. Еднасьці, утульнасьці, захаваньня прыроднага асяродзьдзя, прывабнасьці, памяркоўнасьці, згоды.

Яны, рускія, хочуць быць Вялікімі, уладарнымі, хочуць існаваць, хочуць быць мэсіянскім народам.

Шлях да Еднасьці — гэта шлях Любові. Любоў як іскрынка ўзьнікае з малага, і каб яна разгарэлася і стала еднасьцю народу, патрэбныя такія дзеяньні й словы, якія аб'ядноўваюць усіх, хто жыве на зямлі Бацькаўшчыны. Радзіма бязь еднасьці ператвараецца ў тэрыторыю пражываньня, дзе ніхто ні за што не адказвае. Трэба нешта зрабіць для Радзімы, стварыць Нацыянальны Ўнівэрсытэт, пасадзіць і ўзрасьціць лес, пабудаваць прыгожы дом, вырошчваць хлеб, акрамя гэтага, трэба ведаць гісторыю свайго краю, яго звычкі, характар, мову як інструмэнт спазнаньня сусьвету і адлюстраваньня сусьвету ў мікракосмасе нашага «я».

Чалавек любіць сябе, любіць вынікі сваіх намаганьняў, свае перамогі, ён зрабіў Радзіму лепшай, ён вызначыў сябе ў рэчаіснасьці. Ён Творца! Шлях стварэньня ператварае тэрыторыю ў Радзіму!

Сучасны гістарычны час патрабуе ад народаў былога Саюзу, як «суб'ектаў аўтаномнага існаваньня», самастойных намаганьняў дзеля свайго выжываньня, што зьяўляецца першым і самым галоўным Законам жыцьця.

Любы «суб'ект аўтаномнага існаваньня», ці гэта дзяржава ці чалавек, які страчвае сваё жыцьцёвае асяродзьдзе, сваю тэрыторыю, свой дом — вымушаны загінуць. У сусьвеце дзейнічае барацьба за існаваньне і ня проста за Права на існаваньне, але бязьлітасны Закон Барацьбы за фізычнае выжываньне. Вось адсюль, ад гэтай барацьбы за выжываньне, ад «тэрыторыі пражываньня», ад еднасьці і пачынаюцца вытокі Нацыянальнай ідэі!

**Кастусь Травень, Менск**

*Добры дзень, паважаная «Наша Ніва»!*

*Віншую з усімі мінулымі сьвятамі. Дзякуй за аднаўленьне «паштовай скрынкі».*

*Хацелася б выказаць сваю згоду з прапановамі К.Траўня (НН №1(122)): за выняткам толькі інтэрвію ў палітыкаў (якая розьніца, што яны думаюць пра свабоду і незалежнасьць? Галоўнае — што яны здольныя зрабіць. Але гэтага ад іх не пачуеш — на тое яны і палітыкі), друкаваньня ўрыўкаў пра вайну, пра Сталіна (да гэтага стаўлюся абыякава) і неадкладнага перабазаваньня «НН» у Вільню (закрыцьцё газэты магчымае, але нельга сказаць, каб немінучае; адступленьне найлепшай абаронай ніколі не было; уладам будзе зручней канфіскоўваць газэту на мяжы. Праўда, калі рэдакцыя ведае (або К.Травень можа паведаміць) патаемную сьцежку праз лес...)*

*Да пабачэньня,*

**Сяргей Карбоўскі, Менск**

*Прывітаньне Вам!*

*Мяне завуць Дэвід, я служу малодшым капралам у паветраных сілах ЗША. Там я вучыўся беларускай мовы на працягу аднаго году ў Вашынгтоне. Спадзяюся, што вы можаце разумець, што я пішу. Хачу вам паведаміць, што чытаю «Нашу Ніву» амаль ня кожны дзень. Для мяне гэта вельмі карысны рэсурс. Дзякуй вам!*

**Дэвід Малові, ЗША**

*Шаноўнае спадарства!*

*Цудоўна разумею, што гэты мой матэрыял, нават не гаворачы аб ягонай вартасьці, дасланы зусім ня ў час — позна й раптоўна. Але... Учора ў «Акадэмкнізе» расчынілася мастацкая выстава. Мастак — Алесь Лубнеўскі. Сябра Саюзу Мастакоў Беларусі, але гэта мала аб чым гаворыць. Адзін зь вельмі нямногіх, хто працуе сёньня ў Беларусі ў рэчышчы рэалізму. Але шмат для каго ягоныя пэйзажы — лічыце сымбаль Беларусі. Пэрсанальная, асабістая выстава Алеся першая, хоць яму ўжо за трыццаць, і мастак ён ужо сталы. Губляць гэткі талент для Беларусі ня толькі неразумна, але й проста заганна. Але хлопцу трэба дапамагчы, тое, што сёньня называецца «раскруціць». Дасылаю сваю хуткую спробу водгуку на выставу. Прычым ні ганарар, ні маё імя пад публікацыяй мяне зараз не цікавяць. Калі мая занатоўка, на вашую думку, — дрэнь, дык можа няхай хто з вашых больш сталых аўтараў наведае выставу ды зробіць нешта больш прыдатнае да друку? Бо справа тут, на мой пагляд, сьвятая.*

## Адбітак душы

15 студзеня ў адной з заляў аднойменнай «Акадэмкнігі», што на рагу Скарынаўскага праспэкту й вуліцы Сурганава, расчынілася невялічкая, крыху засьціснутая ў кут стракатымі кніжнымі вокладкамі, але пекная й шчырая выстава жывапісу Алеся Лубнеўскага.

Ты любіш дождж? Задумлівы й нетаропкі, які мілагучна й аднолькава цярусіць на старыя замёрлыя хаты, заімшэлыя, нібы адвечныя хлявушкі й пуні, цыбатыя недарэчныя азяроды ды зеляністы веснавы дзёран на шэрым вялейскім пяску. Ягоныя халодныя кроплі драбязою мітусяцца ў смуготным паветры, шалёна хапаюць апошнія глыткі вірлівага неба й боязка скачуць у падманлівы, напяты спакой даўгіх дарожных лужын. Бачыш? Вунь зь цяжкое шэрасьці далягляду нараджаюцца важкія хмары й, нібыта халодныя акіянскія хвалі, уздымаюцца, накатваюцца, прыціскаюць, але раптоўна растаюць над тваёй галавой, рассыпаюцца мільёнам вадзяных зьнічак. Пранізьлівы вецер шнырае вакол, горне да зямлі кволыя сьцяблінкі травы, гушкае цьмянае гальлё яблынь. Дождж. Але табе цёпла і ўтульна, бо гэта твой дождж:

Ты любіш сонца? Ласкавае, пекнае, шчырае сонейка. Памятаеш? Ягоныя цёплыя прамяні спачатку зусім асьцярожна кранаюць векавое бярвеньне дзедавае хаты. Амаль прытуленая да сьцяны, скалелая за ноч яблыня яшчэ раз-пораз кідае празрыстыя кроплі расы на прымгнулы дол, а цёплыя сонечныя рукі ўжо лашчаць старое, пабітае часам ды шашалем дрэва чалавечага жытла. Чуеш? Твая душа ірвецца са зьледзянелага бэтону гораду, закутага ў асфальтавыя кайданы й залітага зьмярцьвелым нэонавым сьвятлом, на тое, сьвятое для цябе дварышча, дзе жывое сонейка рассыпала свае цёплыя залатыя косы па сакавітым яблынавым лісьці, мокрай ранішняй траве й тваёй дзіцячай душы. Рэшта мінулага дня дагарае за далягядам, кідаючы на сінеючае неба бліскавіцы барвовага полымя. Ты сядзіш на старой прызьбе, прытуліўшы стомлены галаў да цёплага бярвеньня. Лёгенькі вечаровы ветрык лашчыцца каля тваіх ног. Салодка пахне бэзам.

**Андрэй Захаранка, Менск**

# «Ад Полацка пачаўся сьвет»



Мяне па сёньняшні дзень зьдзіўляе, што ніводнае цэнтральнае выданьне ня мае ўласных карэспандэнтаў у Полацку (за выключэньнем «Нашай Нівы»). На гэтую тэму гадоў пяць таму я меў размову з тагачасным рэдактарам «Свабоды». «Вось калі б карэспандэнт жыў у Віцебску, абласным цэнтры, мы б падумалі, узяць ці ня ўзяць, а ў Полацку...» Гэткую ж пазыцыю, напэўна маюць і астатнія рэдактары як незалежных, так і залежных газэтаў. Нягледзячы на легендарную славу гораду на Дзьвіне, самага старажытнага места Беларусі, сёньняшні Полацак усё адно ўспрымаецца, нават нацыянальнай элітай, як нешта правінцыйнае, другараднае, маргінальнае. З Полацка зрабілі гістарычны сувэнір, старажытную мумію, якая, нібыта, ня здольная эфэктыўна функцыянаваць у сучасным сьвеце. Прыехаць, пакланіцца сьвятой Эўфрасіні, падзівіцца зь велічы сабора сьв. Сафіі, наведаць мясцовыя музэі, пакінуць у кнізе водгукаў пару пяшчотных словаў падзякі і зьехаць да кіпучых справаў і вірлівага жыцьця...

Цяжка ўявіць, каб якая-небудзь больш-менш уплывовая газэта Польшчы ня мела карпункту ў Кракаве, старой сталіцы Рэчы Паспалітай, захоўніцы падставовых традыцыяў краіны. Вядома, сёньняшні Полацак цяжка параўнаць зь сёньняшнім Кракавам. Але жыцьцё настолькі хуткаплыннае, што немагчыма прадказаць, што з чым можна будзе параўноўваць заўтра.

Полацак – самы галоўны духовы рэсурс Беларусі. Як кажа Рыгор Барадулін у сваім вершы «Полацкі мэнталітэт»: «Ад Полацка пачаўся сьвет». Беларускі сьвет. Крыніца заўсёды захоўвае тую духовую сілу, якой жывіць нададзей да скону. Ці можна ператвараць крыніцу ў мэмарыял? Поруч з Хатынём, Курганам Славы, Курапатамі... Крыніца павінна бруіць. Даваць спатолю. Сваімі ін'екцыямі вярэдзіць зьняверыяныя душы. І калі гэтага не разумеюць нацыянальныя лідэры, дык увогуле цяжка ўцяміць, за што яны змагаюцца і што будуюць.

Вось нібыта «ЛіМ» адчуў неабходнасьць друкаваць інфармацыю з рэгіёнаў і з тае нагоды зрабіў адмысловую калёнку на сваёй трэцяй старонцы «Абсягі». Але мне дзіўна чытаць полацкія культурніцкія навіны пад рубрыкай «Віцебск...» Як патлумачыць? Каб не парушыць адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел краіны ці – як гэта гучыць па-новаму – вэртыкальнае падпарадкаваньне? Але Полацак у культурным пляне не падпарадкоўваецца ані Віцебску, ані Менску.

Напэўна, гэткія ж патрабаваньні могуць выставіць і іншыя славутыя гарады Беларусі, якія за апошнія два стагодзьдзі былі ператвораныя ў правінцыйныя мястэчкі: Навагрудак, Нясьвіж... Наша агульная справа дапамагчы ім акрыяць. І не апошнюю ролю ў тым могуць адыграць пэрыядычныя выданьні. Актуалізацыя культурніцкага жыцьця гэтых гарадоў па-іншаму пераўсталяваць культурнае жыцьцё ўсёй Беларусі. Сёньня яно боўтаецца ў паветры паміж Смаленскам і Краснадарам, паміж кубанскімі казакамі і сэрбскімі праваслаўнымі, паміж «Славянскім базарам» і «Віцезем» у плюшавай шкуры. Усе ініцыятывы Менску ператвараюцца ў часовыя мерапрыемствы з нагоды юбілеяў і пагаршэньня жыцьцёвых умоваў.

Трэба расчысьціць старыя крыніцы. Штучна зрабіць новую крыніцу немагчыма.

Паважныя газэты на Захадзе маюць уласных карэспандэнтаў ва ўсіх буйных краінах сьвету. Паважныя беларускія газэты павінны мець карэспандэнтаў ва ўсіх знакавых гарадах Беларусі.

**Алесь Аркуш**

# Беларускі Гістарычны Агляд

Выйшаў восьмы нумар Беларускага Гістарычнага Агляду (Том 5 Сшытак 1). Сярод артыкулаў і паведамленьняў прапануюцца публікацыі пра найстаражытнейшы беларускі рукапіс Тураўскае эвангельле (В.Пуцко), узаемадачыненьні таямнічага полацкага князя Ўладзімера зь немцамі ў XIII ст. (Г.Сагановіч), асаблівасьці палітычнага ладу Полаччыны XVI ст. (В.Варонін), «індзейскую вайну» Тадэвуша Касьцюшкі (А.Сімакоў), беларушчыну ў дзёньніках Міхала Ромэра (А.Смалянчук) і філію СД у Баранавічах у 1941-43 г. (Г.Рус).

У перакладах — эсэ прэзыдэнта Амэрыканскай Гістарычнай Асацыяцыі Джойс Эплбай «Сіла гісторыі», правы на публікацыю якога спэцыяльна ў БГА па-беларуску АГА перадала нам gratis, і не менш цікавы артыкул Тэадора Шнайдэра «Роля гістарычнай сьвядомасьці ў палітыцы».

У рубрыцы «Вачыма суседзяў» Г.Ластоўскі падае агляд «Беларусь і беларусы ў расейскіх падручніках па гісторыі».

Публікуецца таксама заключная частка ўспамінаў Франца Кушаля «Спробы арганізацыі Беларускага Войска пры нямецкай акупацыі Беларусі» ды інтэрвію з дасьледчыкам Полацка маладым швэйцарскім гісторыкам Штэфанам Родэвальдам.




**р-р**

# Я СЛАВЯНІН!

Працяг са старонкі 1

Адзінае, што падзяляе гэтыя народы, — рэлігія. Яны — праваслаўныя, каталікі і мусульмане. Але ж пры гэтым ніхто зь іх не адмаўляецца ад сваёй прыналежнасьці да славянства.

Калі славянства — гэта гонар за паходжаньне ад славянскіх плямёнаў, дык варта згадаць, што плямёны тыя былі паганскімі, і менавіта з хрысьціянствам яны ператвараліся ў нацыі, якія ў выніку перападзеляў ужо нельга назваць уласна або чыста славянскімі. Беларусы — гэта славяне на балцкім субстраце, расейцы — на цюрскім і фіна-вугорскім, украінцы — на раманскім і г.д.

Прывязку славянства да праваслаўя вось ужо некалькі стагодзьдзяў прапагандуе Расея. На бытавым узроўні можна часам пачуць падзел на славянаў і палякаў, на хрысьціянаў і каталікоў. Адбіваецца ўплыў ідэалягічных імпэрскіх стэрэатыпаў. Дык можа праваслаўе злучае сапраўдных элітных славянаў? Але што тады рабіць з праваслаўнымі японцамі? Альбо зь беларускім гетманам Канстанцінам Астроскім, «ревнителем православия», які ўвайшоў у гісторыю найперш бліскучай перамогай у бітве пад Воршай, дзе на галаву разьбіў войска сваіх адзінаверцаў-маскавітаў? Адным словам, і рэлігія тут нічога не тлумачыць. Наадварот, ці не панславісцкая расейская прапаганда прывяла да таго, што і беларусы, і ўкраінцы сталіся ўрэшце шматканфэсійнымі народамі, падзеленымі на праваслаўных, каталікоў, уніятаў, пратэстантаў. А югаслаўскі прыклад паказвае, наколькі гэта небясьпечны падзел.

Апошняя надзея — гэта знакі, сымболіка, паводле якой нас іншыя і мы самі сябе пазнавалі б як славянаў. Уявіўшы птушку Гамаюна, я паставіў на сабе экспэрымэнт — ці зварухнецца ў душы што-небудзь блізкае й роднае. Не зварушваецца. Разумею, што гэта вельмі суб'ектыўны падыход. Але што зробіш, калі славянскае братэрства ўрэшце мусіць браць пачатак з кожнай асобна ўзятай славянскай душы. Бо толькі ў душы яно й можа матывавацца, калі не знаходзіць сабе падставаў ані ў мове, ані ў мастацтве, ані ў гісторыі пра патопленых разам зь пеўнямі немаўлятаў.

Пасьля ўсяго сказанага «я славянін» не загучала больш зразумела, чым напачатку. Наадварот, зьявілася іншае пытаньне: чаму яно не гучыць? Напэўна, таму, што гэтая забытая рэалія, калі й мела сур'ёзныя падставы для разгляду, дык толькі ў далёкай гісторыі. Настолькі далёкай, што яна з нашай сучаснасьцю ня мае нічога агульнага. А яшчэ таму, што ідэя славянства найчасцей выкарыстоўвалася менавіта як імпэрская, і тымі дзяржавамі, якія прэтэндавалі на тое, каб дамінаваць спаміж іншых — перадусім гэта тычыцца Расеі і Сэрбіі.

Сёньня гэтая ідэя ўжо зусім не такая драпежная й зубастая, як было яшчэ на пачатку стагодзьдзя, калі галоўнай справай расейскіх славянаў сталі жыдоўскія пагромы. Панславізм не абнаўляецца, а толькі паўтарае старыя формулы, як правіла, далёкія ад гуманнасьці. Аргумэнты ўзыходзяць да крыві і да расы. У такой, расісцкай форме, панславізм, магчыма, і змог бы атрымаць нейкае разьвіцьцё на парозе трэцяга тысячагодзьдзя. Але наўрад ці ён меў бы якое-кольвек сур'ёзнае пашырэньне, большае за яшчэ адзін Ку-клукс-клан. Нават калі яго падтрымлівае дзяржава.

І яшчэ адно пытаньне: чаму ў вуснах сёньняшняга беларускага кіраўніцтва заклінаньне пра агульнаславянскае братэрства гучыць пераканаўча і не выклікае ані ўнутранага, ані вонкавага пратэсту з боку слухачоў. Прычына, відавочна, у мэтодыцы папулізму, адно з залатых правілаў якога сьведчыць: лёзунг павінен быць просты і няясны.

Сяргей Паўлоўскі

## Бяз розьніцы

**Севярын Квяткоўскі**

«Пасьля таго, як я тры разы ня здаў залік па гісторыі паўднёвых і ўсходніх славянаў, я не хачу адчуваць сябе славянінам», — гэтак паўжартам адзін мой знаёмы адказаў на пытаньне, што для яго значыць быць славянінам. А вось што мне адказалі мінакі на менскіх вуліцах:

— Цяжка мне сказаць, што такое быць славянінам. Проста гэтае пытаньне не стаіць наогул.

Перад тым, як прыйсьці да такой высновы, чалавек спрабаваў зьвярнуцца да рэлігіі альбо да мовы. А вось наступны мой рэспандэнт ня меў аніякіх сумневаў:

— Як гэта можна адчуваць, што я славянін? Табе будуць казаць, што ты немец, і ты будзеш адчуваць сябе немцам.

Ягоны сябра быў менш катэгарычны:

— Адчуваеш, вядома. Ну, зь дзяцінства і мэнталітэт, накладаецца культура наша славянская на характар чалавека.

Увогуле, найперш мяне цікавілі адказы маладых людзей, вольных ад савецкіх стэрэатыпаў. Вось, напрыклад, меркаваньне студэнта адносна ідэі славянскага брацтва:

— Я быў у Польшчы, там да беларусаў і ўкраінцаў ставяцца нашмат лепей, чым да туркаў і румынаў. Магчыма, у гэтым і праяўляецца тое самае славянскае братэрства?

Маладых менчукоў, да якіх я зьвяртаўся, найчасьцей мала абыходзіла іхная славянскасьць. Адзін студэнт сказаў, што ўпершыню задумаўся пра сваю нацыянальнасьць толькі ў Расеі, дзе яму намякнулі на тое, што беларус — гэта славянін другога гатунку... Адна дзяўчына прыгадала, што чытала, быццам славянкі лічацца самымі прыгожымі эўрапейкамі... Але збольшага:

— Калі ў цябе ў пашпарце напісана або не напісана, што ты беларус, дык ты можаш сябе адчуваць або не адчуваць беларусам.

— Я лічу, што славянін — гэта чалавек, які адчувае сябе славянінам і не задумваецца пра тое, чаму ён славянін. А проста нарадзіўся і вырас у славянскіх традыцыях, у славянскіх звычаях, магчыма, еў бульбу з малаком...

А вось адказ маладога, але сталага чалавека:

— Ведаеце, цяпер асаблівага гонару за сваю прыналежнасьць да той ці іншай нацыянальнасьці няма. Цяпер усё перамяшалася, і так зручней. Асаблівай розьніцы я не адчуваю.

Гэты спадар распавёў пра тое, што, працуючы за мяжой побач з палякамі, славакамі і югаславамі, заўважыў, што дзяржавы гэтых людзей нашмат больш дбаюць аб сваіх грамадзянах, чым дзяржавы ўкраінцаў, беларусаў ці расейцаў.



Што да найстарэйшага пакаленьня нашых грамадзянаў, дык яны альбо пачыналі цытаваць дзяржаўныя газэты пра велічы і неабходнасьць усходнеславянскага трыадзінства, альбо адказвалі так:

— Які славянін? Мяне не цікавіць ні славянін, ні габрэй, ні амэрыканец. Галоўнае — чалавекам трэба быць у першую чаргу.

## Фантастычныя птушкі і Сьвяты Юры

**Сяргей Харэўскі**

Славянскае мора, за рэдкім выключэньнем, заўсёды аддавала перавагу «драпежнай» сымболіцы: арлы і львы, як і стагодзьдзі таму трывала ўплеценыя ў геральдыку славянскіх народаў. Што праўда, гэтыя сымбалі былі запазычаныя з Захаду. Нават баўгарскі леў стаў сымбалем гэтае краіны найперш як родавы гэрб дынастыі Гагенцолернаў, запрошанай цараваць у адроджанай краіне. Аднагаловыя, белыя й чорныя арлы былі запазычаныя ў германцаў. А дзьвюхгаловы арол прыблудзіў у Расею непасрэдна зь Бізантыі. Папярэдне гэта была рымская хімэра, якую выяўлялі яшчэ этрускі.

Заўважу, што арламі птушыная славянская сымболіка не вычэрпваецца. Фантастычныя птушкі альбо пярнатыя стварэньні са зьвярынымі й чалавечымі галовамі ва ўсіх славянаў сталі ўлюбёнымі пэрсанажамі дэкаратыўнага мастацтва. Аднак жа й яны былі запазычаныя. Сырэны, то з крыламі, то без, адна зь якіх стала гербам Варшавы ды яшчэ тузіну славянскіх гарадоў ад Балканаў да Сібіры, узыходзяць антычных часоў, і палюбіліся славянам позна, у эпоху Рэнэсансу. Нашмат старэйшы пэрсанаж — птушка Сірын, з жаночым торсам, якая яшчэ з дахрысьціянскіх часоў шануецца ў Эўропе менавіта славянамі. Яна вядзе сваё паходжаньне ад птушкі Сімург, генія замагільнага сьвету з іранскае міталёгіі, і яе прынесьлі ў Эўропу скіфскія плямёны, а на Дунай — вугорцы. Яшчэ адзін дэманічны пэрсанаж — птушка Гамаюн, ізноў жа запазычанае, у фіноідаў. Ува ўсім гэтым птушыным карагодзе насамрэч ёсьць нешта непапраўна славянскае. Памятаеце словы гераіні «Навальніцы» Астроўскага: «Чаму людзі ня лётаюць, як птушкі!» Пасьля чаго гераіня топіцца.

У гэтай любові да фантастычных пярнатых ёсьць нешта НЕДАхрысьціянскае. Бо, прынамсі, хрысьціяне мусяць ведаць пэўна, каму дадзена лунаць у нябёсах. Прага дадаць свайго прыроднага разуменьня, расквеціць аскетычную, ва ўяўленьнях славянаў, хрысьціянскую сэмантыку, прыводзіць да парадаксальных вынікаў. Павы, якія паводле раньнехрысьціянскіх, катакомбавых традыцыяў, увасабляюць неўміручасьць і ўваскрашэньне, ператварыліся ў славянаў у Жар-птушку, пяро якой можа ашчасьлівіць якога-небудзь Івана-дурака. Лебедзь, сымбаль чысьціні й цнатлівасьці, ператвараецца ў спакусьлівую хімэру «Цароўну-лебедзь»...

З Блізкага Ўсходу прыйшла таксама выява Сьвятога Юрыя (Георгія, Ежы), які забівае (коле, сячэ) страшнага цмока. Уяўленьні пра яго маюць невялікія разыходжаньні: у адных славянаў цмок — гэта ўсё ж не крылатая зьмяя, а грувастая вялікая пачвара з чатырма нагамі. Але сам пэрсанаж — ваяр прыйшоўся даспадобы ўсім славянам аднолькава. Калі ў часы адраджэньня славяншчыны, у сярэдзіне мінулага стагодзьдзя, мастакі пакутліва шукалі сымбалі й вобразы, якія б маглі характарызаваць славянскую еднасьць, то ўсё зьвялося да аднаго: вобраза волата на кані, які гатовы адным махам сьсекчы сем галоваў. Насамрэч, што можа быць агульнага паміж нашчадкамі баўгарскага хана Аспаруха, польскага караля Пяста ды нашага князя-ваўкалака Ўладзімера? Прага збройнага чыну. Менавіта мілітарная гісторыя стала духовым апірышчам славянскага сьвету.

Славянскія народы, якія апынуліся ў 19 стагодзьдзі на ўскрайку цывілізацыі, адраджаючы сваё мастацтва, зьвярнуліся найперш да батальнага жанру, і найперш з палітычнымі мэтамі. Калі ў мастацтве Францыі, Італіі ці Гішпаніі гістарычны жывапіс займаў сьціплае маргінальнае месца, у славянаў ён стаў найбольш шанаваным. У Матэйкі палякі б'юцца з маскалямі, у Брулова расейцы б'юцца з палякамі. Нават улагодненыя цывілізацыяй чэхі, Алеш ці Чэрмак, пісалі найперш крывавую гісторыю. Лішне казаць, што выяўлялі яны мячы, штыкі і кроў.

Бадай, ці ня самы славянскі сымбаль — гэта меч, чыя б рука яго ні сьціскала: варшаўскай Сырэны ці жаўнера-беларуса ў Трэптаў-парку. Ну а палёты, палёты сірынаў, усьмешлівых грыфонаў ці канька-Гарбунка — гэта для дзяцей, славянскіх дзяцей, пакуль яны ня могуць узяць у рукі меч...

# ШТО ГЭТА ЗНАЧЫЦЬ?

## Несымэтрычнае разуменьне

**Сяргей Шупа**

Самае вострае, амаль экстатычнае адчуваньне славянскага кантакту я заўважаю ў сабе падчас зносінаў з украінцамі, асабліва заходнімі, калі кожны з нас гаворыць сваёй мовай і рознасьць нашых моваў ня толькі не стварае бар'еру, а наадварот дадае нашаму кантакту непаўторныя нюансы. Да таго ж агульнасьць нашага гістарычнага лёсу, сувымернасьць нашых краінаў, падобнасьць нашых нацыянальных праблемаў дапамагаюць нам разумець адзін аднаго з паўслова. Гэта — выпадак сымэтрычнага разуменьня.

Цяпер — пра несымэтрычнае разуменьне. Ясна, што беларус заўсёды здолее паразумецца з расейцам (я маю на ўвазе мову — у гэтым сэнсе літаральна: здолее дамовіцца). Аднак беларуска-ўкраінская ідылія тут не паўтараецца. Або расеец будзе разумець беларуса непараўнальна горш, бо практыка паказвае, што расейцы ў масе сваёй па-беларуску разумеюць зь вялікай цяжкасьцю, або — якраз дзеля гэтай прычыны — беларус проста сам пярэйдзе на расейскую мову. У гэты самы момант славянская еднасьць распадаецца. Бываюць і шчасьлівыя выняткі — гэта нашыя, беларускія расейцы, грамадзяне Беларусі ня толькі паводле пашпарту, або нейкія сьветлыя галовы ў самой Расеі.

Вельмі падобная сытуацыя несымэтрычнага разуменьня назіраецца і ў беларуска-польскім кантакце. Розьніца ў неаднолькавай палітычнай дыстанцыі да Польшчы й Расеі ды яшчэ ў тым, што Польшча для нас — натуральная брама ў Эўропу, а Расея —напэўна, брама ў нікуды.

Кантакт з усімі астатнімі славянскімі народамі стварае даволі камічную сытуацыю сымэтрычнага неразуменьня. Што з таго, што мы паводле ягонай гаворкі апазнаем чалавека як македонца, славенца або кашуба? Як нам, не зьвяртаючыся да чараў алькаголю, спазнаць слодыч славянскай еднасьці ад кантакту з прадстаўнікамі гэтых бясспрэчна славянскіх народаў? Памятаю, маё першае ўражаньне ад горнясэрбскай (або як нас вучаць казаць расейцы — верхнялужыцкай) мовы — гавораць па-нямецку, толькі не зразумець ніводнага «нямецкага» слова. На леташнім Усеславянскім зьезьдзе ў Празе я цэлы дзень прабавіў у кампаніі двух славенцаў. Уратавала нас тое, што мы гаварылі па-ангельску. Ня ведаю, што адчувала пры гэтым мая славянская душа, але гэтыя хлопцы з Марыбору былі мне значна бліжэйшыя, чым расейцы ў казацкіх папахах. Зноў жа — зь якім ірляндцам бывае лягчэй паразумецца, чым з чэхам, бо для звычайнага чэха — хоць ты беларус, эстонец, якут або таджык — ты ўсё адно застанесься расейцам.



Вось жа, падсумоўваючы, зазначу, што паміж беларусамі і ўкраінцамі існуе нешта значна большае за славянскую еднасьць; паміж беларусамі і славенцамі-македонцамі-кашубамі ды іншымі далёкімі славянамі — нешта значна меншае. А ў кантактах з расейцамі асобная славянскасьць беларуса або супярэчыць расейскай, або проста ў ёй зьнікае. Так шуканая мною славянская еднасьць растае ў нябыце.

## Бой

**Зьміцер Бартосік**

Калі дзяржаўны эфір усё часьцей і ўсё больш навязьліва пачынае нагадваць пра маю славянскую кроў у надзеі на пераможны барабанны бой, што павінен загучаць у маёй душы, я нават ужо не раздражняюся. Каб даведацца, што такое гэтае загадкавае славянскае братэрства, мне хапіла прысутнасьці на адным баксэрскім паядынку, што адбыўся летась на чэмпіянаце Эўропы ў Менску.

У боксе я разумею прыкладна столькісама, колькі ў славянскіх узаемасувязях, але не адседжвацца ж было ў хаце, калі непадалёк прынародна й беспакарана б'юць хлопцаў у чырвона-зялёнай форме з капусным гербам на грудзёх.

А патрапіў я, як высьветлілася, на самае цікавае. На паўфінальны бой у цяжкой вазе паміж пасланцамі Югаславіі ды Ізраіля. Спачатку пад воплескі й братэрскія вітаньні на рынг выйшаў высокі магутны бляндын Аляксандар Урбанавіч. А праз хвіліну пад сьвіст і рогат выбег нязвыкла для боксу таўстазады ізраільцянін Туфік Нузізі. Акрамя аспэкту, трапна выяўленага ў дактрыне «Бей жидов, спасай Россию», бой заінтрыгоўваў яшчэ й тым, што, хоць байцы былі ў роўнай вагавай катэгорыі, але тая вага разьмеркавалася ў іх па-рознаму. Жыдоўскі спартовец быў на тры галавы ніжэйшы і недзе ў паўтары разы таўсьцейшы за свайго славянскага асаністага візаві.

Зь першых хвілінаў паядынку публікай авалодала незвычайная весялосьць. Туфіку з-за малога росту было значна цяжэй дацягвацца да славянскага аблічча, прыходзілася крыху падскокваць, але затое югаславу ня так проста было манэўраваць вакол шырокага ізраільскага зада. За трыма вясёлымі хвілінамі публіка й не заўважыла, што па ачках вядзе жыд. Што, безумоўна, толькі дадало інтрыгі.

З пачаткам другога раўнду ў сэктары, які займала дэлегацыя заўзятараў з Расеі, узьняўся рускі чалавек і, не шкадуючы ні ўласнага горла, ні суседзкіх вушэй, пачаў падтрымліваць югаслава выкрыкамі «Саша, мы с тобой!» «Славяне! Поддержим брата!» Лянівыя беларусы, між тым, марнаваць свае галасы на падтрымку братана ня надта сьпяшаліся. І мелі рацыю. Трымацца славяніну пад цяжкімі ўдарамі божага абранца прыходзілася ўсё цяжэй і цяжэй. Напрыканцы паядынку, да расчараваньня расейскага заўзятара, сымпатыя залі амаль цалкам перайшла на бок Давыдавага нашчадка. Хацелася сьпяваць «Хава Нагілу». І пад чарговае расейскае «Славяне!» югаслаў атрымаў апошняе прывітаньне зь берагоў Ярдану, пасьля якога больш ня ўзьняўся. Ягоны маскоўскі прыхільнік, зьлёгку расчараваны тармазнутасьцю беларусаў, цяжка апусьціўся на сваё крэсла. Наколькі ж моцным было ягонае й маё зьдзіўленьне на незвычайны ўздым тутэйшых трыбун, калі ў наступным баі супраць беларуса выйшаў ягоны зямляк-масквіч! «Спасаць Расею» ахвочых не знайшлося...



Напэўна, ні ў водной славянскай краіне няма столькі славянскага, як у Беларусі. Славянскія вуліцы, унівэрсамы, бэнзакалёнкі, цырульні ды банкі. Славянскія рэстарацыі, у якіх абавязкова ёсьць якія-небудзь чэбурэкі, таксама абавязкова й выключна славянскія. Не зьдзіўлюся, калі хутка зьявіцца славянскае мыла ці піва. Гэта ўсё можна набываць, есьці, але як гэта ўсё пераварваць душою — не ўяўляю. А пераможа ўсё адно Туфік Нузізі. Бо перамога заўжды будзе за тым, хто змагаецца пад сваім сьцягам. Наколькі гэта банальна, настолькі ж абнадзейвае. Я славянскага сьцяга ня ведаю, а «Славянскіх» пяльменяў не ўжываю прынцыпова.











# У ГАЛЕРЭІ БАБКОВА

*Гутарка Севярына Квяткоўскага з Ігарам Бабковым*

Камэнтуючы сучасную беларускую культурную сытуацыю, Ігар Бабкоў прамаўляе слова «стома». Маўляў, мінуў пэрыяд канца 80-х –пачатку 90-х, калі здавалася, што выйдзе яшчэ адна кніжка, музычны альбом, прамовіцца яшчэ адно патрэбнае слова, і сытуацыя кардынальна зьменіцца. Сытуацыя, якая базавалася на хісткім кампрамісе паміж руцiннай адраджэнскай ідэалёгіяй і прагай фэеры. Мінула таксама постадраджэнская сьцішанасьць, калі імёны, якія перад тым гучалі як адкрыцьцё, сышлі ў цень:

– Сёньняшняя сытуацыя нагадвае мне другі старт. Асаблівасьці гэтага старту ў тым, што ўсе проста спрабуюць рабіць клясныя рэчы. Не арыентаваныя на зьмену агульнай культурнай сытуацыі. Арыентаваныя не на адраджэньне, а на тое, што імкнецца выявіцца.

Ігар Бабкоў гаворыць пра тое, што новая беларуская культура ня здолела выйсьці з стану існаваньня ў паралельнай прасторы. Адна з магчымасьцяў перарваць знутры гэтую паралельную прастору для яго – заснаваньне кніжных сэрыяў «Сучаснае мысьленьне» і «Галерэя Б»:

– «Сучаснае мысьленьне» – гэта спроба паказаць, што ёсьць ня толькі літаратура, але й філязофія, і культуралёгія, такая зьява, як беларускае мысьленьне. Але гэта было б прыгожымі пражэктамі, каб не было саміх кніжах. Спачатку была ідэя –выдаваць клясныя кніжкі, потым паўсталі калекцыі. У аснове –мэтафара Борхесавай «Бабілёнскай Бібліятэкі». Мы ўявілі адну з галерэяў і назвалі яе «Галерэя Б» – Галерэя Беларусь. Звышкрытэр, які, здаецца, удаецца вытрымаць – кожную з гэтых кніжак можна перакладаць.

Сярод аўтараў, чые творы Бабкоў жадаў бы выдаць у «Галерэі Б» у будучыні – Марыя Роўда, Лявон Вольскі, а таксама «Выбранае» Алега Мінкіна... Таксама галоўны рэдактар «Фрагмэнтаў» пляное запачаткаваць калекцыю пад назвай «Сярэдняя Эўропа», дзе ў перакладах выйшлі б Чэслаў Мілаш, Мілан Кундэра, Даніла Куш, Мілорад Павіч і іншыя.

– Мы маглі б выдаць дзьве тоўстыя кніжкі, і на гэтым усё б скончылася. Але мы робім маленькія, бо хочам, каб зьяўляліся самі кніжкі. Калі кніжкі зьяўляюцца, то ёсьць адчуваньне жыцьця. Калі кніжкі выходзяць, тады яны нарэшце пачынаюць пісацца.

Бабкоў лічыць, што яшчэ рана казаць пра зьяўленьне новае генэрацыі, якая вырасла на плёне творчасьці сучасных незалежных культурных асяродкаў. Ён лічыць, што і часопіс «Архэ», і культурніцкая дзейнасьць Маладога Фронту і іншыя ініцыятывы сёньняшніх дваццацігадовых так ці інакш непасрэдна зьвязаныя з «старэйшымі».

– Новая генэрацыя – гэта генэрацыя сёньняшніх шаснаццаці-сямнаццацігадовых. У «НН» была нататка пра «Вулей», пра тое, што яны зьбіраюцца... – гэта людзі, якія ні ў чым не залежаць. Ні станоўча, ні адмоўна... Ёсьць старая кітайская показка пра тое, што ня трэба цягнуць расьліны, каб яны хутчэй вырасьлі, бо можна вырваць з коранем.

*Працяг са старонкі 1*




**Скажам, ужо Галубовіч — не настолькі акрэсьлены пісьменьнік. Для лепшых твораў беларускай літаратуры апошніх дзесяцігодзьдзяў ён — хутчэй правіла, а Разанаў і Глёбус — выключэньне, іншы кірунак.**



**Ігар Бабкоў не плянуе выдаць вершы Глёбуса, хоць, на маю думку, ад гэтага калекцыя выглядала б больш цэльна.**



**Ігар Бабкоў пачынае свае характарыстыкі са слова «стома». І большасьць кніг мастацкай і філязофскай калекцыяў адгукаюцца на гэтае слова. «Стома» выяўляецца як ў недаробленасьці некаторых тэкстаў і твораў, так і ў тэматыцы, і зьмесьце, на якіх ляжыць пячатка нязбыўнае тугі. Гэта дэкаданс. Здаецца, з часоў Багдановіча ў нас ніколі так шмат і з такім натхненьнем не пісалі пра сьмерць.**






**Тэматыка сьмерці разьлітая па кніжках, і можа быць, асабліва часта сустракаецца ў Сяргея Дубаўца, для якога «ўсё занадта добра, каб не прыходзілі думкі пра сьмерць». Адзін за адным аўтары манерна гавораць пра сьмерць нацыі, літаратуры, слова. Вяршыня гэткага манернічаньня — кніга Валянціна Акудовіча «Мяне няма».**

**У кожным разе, новая калекцыя адлюстроўвае той філязофскі дэкаданс канца стагодзьдзя, які паступова запаноўвае ня толькі ў асяродку Ігара Бабкова і ня толькі ў Беларусі, а ці не паўсюль у філязофіі і эстэтыцы. Тут і «Канец гісторыі» Фукуямы, і «Гібель Тытаніка» ў ролі самага касавага фільма канца тысячагодзьдзя.**

**Крыт.**

# ХІТРЫКІ ВУЧЫЦЕЛЯ

Сама назва гэтае кнігі – «Мяне няма» – ужо разьлічаная на правакацыю чытача. Але назваю тое не скончаецца. Першыя словы першага пасьля прадмовы тэксту: «Не было, каб я чуў ад некага: люблю Мінск».

Па-першае, ня верыцца; па-другое, пасыл падаецца занадта адвольным, каб на ім выбудоўваць наступныя развагі. Па-трэцяе, аўтар дыскваліфікуе сябе як літаратурнага крытыка. Згадаем хоць бы словы Караткевіча пра Менск: «... ён прыўкрасны. У кожны час дня і ночы, у кожную пару года. А будзе яшчэ лепшым». Прыгадаем кнігі Сыракомлі, Шпілеўскага, урэшце Пазьняка. А затым – цэлы россып вершаў і песень. «Родны мой горад, любоў мая»...

Можа, каб у тэксьце замест слова «Мінск», стаяла слова «Менск», высновы аўтара былі б іншыя. Мінск зусім не Мэдына, роўна ж як і Мэкка – ня Вільнюс. Гэта Вільня, паводле Жылкі, крывіцкая Мэкка. І менавіта МЕНСКУ, гэтага трансцэндэнтнага места, ня можа ня быць, бо ёсьць Беларусь, якая ў ім матэрыялізавалася ад Слова. І гэтае Слова было – Незалежнасьць.

Акудовіч піша: «Мінск пазбаўлены ўцэнтраванага ў структуру прасторы сымбалічнага міту, паэтычнай дамінанты, сярэдзіны самога сябе...» А гара Верхняга гораду, дзе ад каталіцкай Катэдры да праваслаўнай трыста крокаў, – ці ня ёсьць і Альфаю, і Амэгаю? Больш відавочны і канкрэтны сымбаль прыдумаць цяжка. Але Акудовіч прагне эпатажу, выбіраючы ўсё мацнейшыя словы: «Мінск – места адзінокіх самотнікаў, у якім самагубцаў больш, чым дзе».

Таксама ня верыцца. Бо не ўяўляецца ані Парыж, ані Лёндан без самотнікаў, без самагубцаў, як распаўсюджанага тыпажа. Розьніца ў тым, што МІНСК – самагубца сам, які мэтадычна зьнішчае самога сябе фізычна і калі-небудзь ён завершыць гэтую работу, саступіўшы месца МЕНСКУ, які жыве толькі з нашае любові. Як зь любові Шагала перахаваўся Віцебск.

Што да Марка Шагала, дык тут аўтар ня ставіць пад сумнеў існаваньне Віцебску. Тут Акудовіч сумняваецца на іншы прадмет. Наколькі Шагал – фэномэн беларускі: «этнічна –гэбрай, сацыяльна – расеец, эстэтычна – эўрапеец, духоўна – касмапаліт)». Сам Шагал пра сябе пісаў: «я маліў свайго прадзеда, які расьпісаў сынагогу, падараваць майму пэндзлю хоць адзіную кроплю жыдоўскае сапраўднасьці». Значыць, і этнічна, і эстэтычна, і духоўна Шагал перадусім быў габрэем. А сацыяльна паходзіў з габрэяў-паўпралетарыяў... Паводле сусьветных дэфініцыяў Шагал – францускі мастак, родам з Расеі. Ягонае расейскае грамадзянства гэтаксама не аспрэчыць, як, напрыклад, польскае – беларускага мастака Тарасэвіча. Але тое, што гэты габрэй-мастак быў у Віцебску «абшарнікам Вялікае Расеі», – такога да Акудовіча не прыдумаў ніхто...

Мірскі замак, Эйфэлева вежа і піраміда Хэопса знаходзяцца, на думку Акудовіча, на аднолькавай адлегласьці ад гледача тэлевізара. І гэта слушна, калі глядач сядзіць ля тэлевізара ў Сант'яга альбо ў Маніле. Француз жа выдатна ведае, хто такі Эйфэль, а Мірскі замак для большасьці беларусаў да сёньня – абстракцыя, якую тэлевізар ніяк не наблізіў.

«Мяне няма», «Горад, якога няма», «Не было, няма і ня будзе»... Калі б Валянцін Акудовіч быў школьным настаўнікам, можна было б падумаць, што ён правакуе вучняў на абвяржэньне сваіх відавочных інтэлектуальных правакацыяў. Вучні мусяць абвергнуць хітрага мэтра, а ён задаволена ўсьміхнецца: «Рацыя». Толькі пры чым тут «Сучаснае мысьленьне»?

**С.Х.**

# МЯСТЭЧКА ЗА 100 ГАДОЎ

Спиридонов М. Заславль в XVI в. – Менск: Дзяржаўны гісторыка-культурны запаведнік «Заслаўе», 1998 – 95 с.: іл. – Наклад 100 ас.



Апошнім часам ўсё часьцей зьяўляюцца кнігі па гісторыі, наклад якіх – 100 асобнікаў. Пэўна, гэта ня сьведчыць пра абыякавасьць чытача да тэматыкі. Прычына ў магчымасьцях кнігавыдаўцоў і аўтараў, якія часам укладаюць у выданьне ўласныя сродкі. Трэба падзякаваць ім і пашкадаваць, што найкаштоўныя выданьні не задаволяць попыту ўсіх цікаўных. Гэта можна сказаць і пра брашуру вядомага гісторыка Міхаіла Сьпірыдонава пра Заслаўе XVI ст. Горад вядомы, з багатай гісторыяй, месца шматлікіх экскурсіяў, знакавы горад нашай гісторыі. І вось маем такі мізэрны наклад. Нагадаем, што папярэдняя кніга пра Заслаўе археоляга Юрыя Зайца «Заслаўе ў эпоху фэадалізму» выйшла ў 1995 годзе накладам не нашмат большым – толькі 550 асобнікаў. Брашура М. Сьпірыдонава, як падкрэсьлівае і сам аўтар, напісаная як своеасаблівы працяг кнігі Ю. Зайца, каб «больш поўна і канкрэтна асьвятліць некаторыя важныя пытаньні гісторыі Заслаўя XVI ст.», а менавіта – «гісторыю Заслаўя ў сувязі зь лёсам яго ўладальнікаў – прадстаўнікоў шляхецкіх родаў князёў Жэслаўскіх і паноў Глябовічаў у XVI ст.».

Брашура мае арыгінальную структуру і складаецца з тэксту «Жаслаў Жэслаўскіх і Глябовічаў», кронікі Заслаўя за 1547-1613 г., новай рэдакцыі рэцэнзіі аўтара на кнігу Ю. Зайца; у дадатку зьмешчаны пяць юрыдычных дакумэнтаў пра маёнтак Заслаўе за 1558-1583 г., маецца некалькі фотакопіяў іх старонак, карта Беларусі з пазначанымі на ёй асноўнымі маёнткамі Яна Янавіча Глябовіча, малюнкі з гербаў, выява подпісу, дзьве генэалягічныя табліцы. Брашура ўтрымлівае вялізны фактычны матэрыял, большасьць фактаў упершыню зьявілася на старонках друку. Як і іншыя працы М. Сьпірыдонава, яе вызначаюць выверанасьць фактаў, скрупулёзнасьць, абгрунтаванасьць высноваў, агулам кажучы, акадэмізм, які даволі рэдка сустракаецца ў нашых акадэмічных выданьнях. Блага, што аўтарскі акадэмізм адліўся ў фразу «так званая нацыянальна-дзяржаўная канцэпцыя гісторыі Беларусі старога міту перашапачатковай беларускай нацыяналістычнай гістарыяграфіі». Штампы такога кшталту дорага абышліся нашай навуцы.

Сярод розных праблем аўтар закрануў вельмі важны прынцып гістарызму ў перадачы асабовых імёнаў. Праблему гэтую ня можна вырашыць абсалютна. Сапраўды, чаму цяпер назву гораду мы пішам як «Заслаўе»? Адказу няма. У летапісах сьпярша сустракаем форму «Изяславль», пасьля «Ижеславль», у дакумэнтах XVI ст. –»Жаслав», «Жаславль», «Жослав», « Жославль», «Жеслав», «Жеславль», «Заслав», «Заславль», «Заславъе». А зацьвердзілася ўсё ж апошняя форма. Толькі як пісаць у гістарычных працах? Згодна з прынцыпам гістарызму М. Сьпірыдонаў крытыкуе Ю. Зайца за парушэньне гэтага самага прынцыпу для XVI-XVII ст., бо той выкарыстоўваў толькі назву «Заславль». Ад сябе зазначым, што ва ўсіх гэтых спрэчках адыгрывае ролю і мова гісторыка. Свае працы Ю. Заяц і М. Сьпірыдонаў напісалі на расейскай. А як пісаць тым, хто абраў беларускую? Як ні напішаш па-беларуску, гэтая форма будзе адрозьнівацца ад пісьмовай беларускай формы XVI ст. На гэты конт М. Сьпірыдонаў вядзе даўнюю дыскусію зь «Беларускай Энцыкляпэдыяй». Дасьледчык мае аргумэнт, што «беларусізацыя» даўніх геаграфічных назваў істотна скажае «гістарычныя формы напісаньня» большасьці тапонімаў. А ці сказіла «беларусізацыя» гістарычныя формы вымаўленьня тых тапонімаў? Пэўна, самі «гістарычныя формы напісаньня» скажалі вымаўленьне тагачасных назваў. А як сучасная беларуская мова арыентуецца на вымаўленчую практыку, дык можа, ніякага скажэньня не адбываецца?

Крытыкаваць розных дасьледчыкаў можна і за іхную прыхільнасьць да пэўных формаў назваў. Але тыя заўсёды могуць знайсьці аргумэнты на сваю карысьць. У гэтым выпадку праблема цікавая тым, што акрамя мястэчка Заслаўя існаваў княскі род, прозьвішча якога пасучаснаму пішацца як Заслаўскія. У крыніцах XVI ст. іх называюць «Жаславские», «Жеславские», «Жославские». У любым выпадку, калі ў дакумэнце ёсьць «Жеслав», то адпаведна сустракаем форму «Жеславские», а калі «Жослав» – «Жославские». Такой лёгікі не стае ў брашуры, дзе сустракаем разьдзел «Жослав Жеславских», а на вокладцы –»Заславль».

Асаблівую цікавасьць выклікае зьмешчаны ў брашуры дакумэнт XVI ст., дзе падаецца радавод вядомага панскага роду Глябовічаў. Звычайна дасьледчыкі ўважаюць яго за славянскі і праваслаўны з паходжаньня, сыходзячы зь імя родапачатніка Глеба Вяжэвіча, які жыў у сярэдзіне XV ст. Згодна з дакумэнтам, Глябовічы паходзяць ад літоўскага баярына Манівіда. Магчыма, так і было, аднак дакладнасьць знойдзенага дакумэнта сумнеўная, бо Глеб у ім названы як Глябовіч Вяжэвіч Манівід. Аднак можна падабраць довады, якія б тлумачылі наданьне праваслаўнага імя прадстаўніку каталіцкага роду: такое магло здарыцца пасьля Канстанцкага сабору 1414-18 г., калі ў колах тагачаснага грамадзтва пэўны час панавала эйфарыя ад злучэньня праваслаўнай і каталіцкай цэркваў. З другога боку – каталік з праваслаўным імем – зьява выключная ў беларускай гісторыі. Але якіх толькі цудаў яна не хавае.

**Валеры Пазьнякоў**

# СУЧАСНАЕ МЫСЬЛЕНЬНЕ

**Алесь Кебік**

Сучаснае мысьленьне ня ставіць пытаньня пра сэнс жыцьця або, як пісаў Камю, пра тое, ці вартае жыцьцё таго, каб быць пражытым. Сучаснае мысьленьне цяжка ўявіць сабе як прафэсію. Доктар філязофскіх навук – гэта той, хто абазнаны ў гісторыі філязофіі, але ён зусім не ўспрымаецца жывым мысьляром, ад якога сучасьнікі чакаюць якогась лёсаноснага павароту думкі, як чакалі яшчэ ад Хайдэгера. Сучаснае мысьленьне блукае ў стракатых скопішчах постмадэрнізму і кампілюе, спрабуе спалучыць неспалучальнае. Як у краіне на пераломным этапе ідзе перадзел уласнасьці, так у філязофіі, эстэтыцы і маралі адбываецца перадзел уяўленьняў. Мысьляры й мастакі цягнуцца да самых яркіх і выразных пэрсанажаў гісторыі і сучаснасьці. Палеміка вакол імя і асобы Пінача таміжволі набывае характар жывога сучаснага мысьленьня. У нашай сытуацыі залішняя палітызаванасьць журналістаў замінае ім з такім самым пафасам і абагульненьнем абдумваць сытуацыю, у якую трапіў старшыня калгасу Старавойтаў, хоць матэрыял нібы сам просіць аб гэтым.

Між іншым, параўнаньне гэтых двух лёсаў – Піначэта і Старавойтава – таксама кампіляцыя, праўда, я б не назваў яе постмадэрнісцкай, бо постмадэрнізм адразу зьнікае адтуль, дзе зьяўляецца лёгіка. Увесь сьвет лютуе або пратэстуе ў справе Пінача, хоць у Гішпаніі, дзе яго мусяць судзіць, пасьля 70 гадоў турэмнае зьняволеньне не прадугледжана. Гэта значыць, што Пінача ў кожным разе гарантаваная спакойная старасьць і магчымасьць апраўдваць перад уласным народам свой жыцьцёвы выбар. У той самы час ягоны раўналетак Старавойтаў яшчэ да суда сядзіць у жалезнай клетцы ва ўласнай краіне, дзе паважны ўзрост не зьяўляецца аргумэнтам. Чым не матэрыял для сучаснага мысьленьня пра ўласную нацыю, чый лідэр пры гэтым умудраецца знаходзіць сабе падтрымку найперш менавіта сярод пэнсіянэраў?..

Напэўна, невыпадковы і пашыраны сёньня зварот да асобы Гітлера. Адразу два новыя фільмы выйшлі ў сьвет: дакумэнтальны беларускі «Дамова з Гітлерам» Уладзімера Коласа і мастацкі расейскі «Містэрыя гары» Арабава і Сакурава.

Напачатку 1997-га зьвярталася да гэтае асобы і «НН». «Гітлер – «вялікі» ці кожны з нас?» – называўся артыкул:

«Сёньняшняя «хваля Гітлера» трапляе на добры момант глябальных пераацэнак. Адно з пытаньняў, якія ставіць сучасная кінематаграфічная і кніжная «гітлерыяна», – ці быў Гітлер вялікім?»

Гітлер абагаўляў спорт. Можна ў прынцыпе зразумець, чаму прэзыдэнт Лукашэнка пераасэнсоўвае сёньня Гітлера. І гэта таксама частка сучаснага мысьленьня.

Леў Талстой перад сьмерцю надта перажываў, што напісаў столькі тоўстых кніжак, а ў чалавеку нічога не зьмянілася, не палепшылася. Магчыма, за такое імкненьне палепшыць чалавека Ленін і назваў Талстога люстэркам рускай рэвалюцыі. Калі знаёмісься зь нядаўна выпушчанай у Францыі «Чорнай кнігай камунізму», разумееш, што мусіла б, паводле Леніна, адлюстроўвацца ў Талстым. Ня ведаю, ці чытаў Талстога Гітлер, але сучаснае мысьленьне збліжае іхныя пазыцыі. Леў Талстой, Адольф Гітлер, Аляксандар Лукашэнка, Старавойтаў і Пінач эт –кожная з гэтых асобаў дае вялікія магчымасьці для развагаў пра дабро і зло, пра цынізм палітыкаў і непазьбежную гістарычную пераацэнку, найчасьцей – з плюсу на мінус. І калі на хвіліну адарвеш вочы ад гэтага шэрагу, пасьля не заўсёды разумееш, пра каго менавіта ідзе размова.

Сёньня ў «НН» – фрагмэнты кінасцэнара «Містэрыя гары».

# АДЗІН ДЗЕНЬ ЛЮБОВІ



**Сюжэт кінааповесьці «Містэрыя гары» — гэта кроніка аднаго дня з жыцьця Адольфа Гітлера і Евы Браўн на дачы фюрэра ў Альпах позьняй вясной 1942 году. Аўтараў — Юрыя Арабава і Аляксандра Сакурава, займалі не ваенныя рэаліі фатальнага для Нямеччыны году, які закончыўся Сталінградзкай бітвай, але любоўная гісторыя дваіх людзей. Дакладней, аднаго чалавека — Евы, бо да Адольфа слова «чалавек» дапасоўваецца зь вядомымі агаворкамі. Для хрысьціяніна ў любові, у ратаваньні душы праз любоў заключаны вышэйшы сэнс жыцьця. Але ці можна праз любоў да пачвары выратаваць душу? Гэтае пытаньне займала аўтараў найболей. Ева Браўн, згодна з успамінамі, была здольная самаахвярна любіць — і тым самым наканавала сабе безвыходнае існаваньне. Таму адзіны герой гэтай гісторыі — яна. Яна была крэпкай і ладнай жанчынай. Трыццацігадовая круглатварая і румяная бляндынка з паўнаватымі, але трэніраванымі нагамі, з пушком на верхняй губе, яна нагадвала вясковую дзяўчыну, якая сваім здароўем і сілай можа навучыць жыцьцю любога месьціча...**



Сцэна за сталом.

Фюрэр быў апрануты па-вечаровому — у фрак. Элегантны і сьвежы, ён быў падобны да пэрсанажа з моднага часопіса.

— Цудоўнае кіно, — падзяліўся Ёзаф ураажаньнямі ад прагляду і нецярпліва падчапіў відэльцам салату.

— Жахлівая лухта, — не згадзіўся зь ім фюрэр. — У жыцьці ня бачыў больш ванітнага відовішча.

— Сапраўды, — прамармытаў Ёзаф, — нейкі сыры... недароблены твор.

— Калі яшчэ ехалі танкі... было ня так сумна. Але другое кіно... Гэта ж сьмецьце! Калі сцэнарыст ня можа ці ня хоча, калі апэратар б’е бібікі й сьвішча, калі рэжысэр заняты самавыражэньнем, а ў гукаапэратара нічога не чуваць, — дык скажыце, што нам рабіць з такім кіно?

— Адправіць у Асьвенцім, — адказала Ева, пазіраючы наіўнымі дзіцячымі вачыма.

— Куды? — не зразумеў фюрэр. — Асьве... дзе гэта?

— Нідзе, — адказаў Марцін. — Такой назвы няма.

— А калі няма, чаму яна кажа...

— Мала што можа сказаць жанчына, няхай нават чароўная, —керхануў Марцін у кулак.

— Гэта слушна, — згадзіўся Адзі, усьміхнуўшыся. — Дакладная заўвага. Калі, скажам, усе прыгажуні з карцін старых майстроў пачнуць стракатаць, як сарокі, што тады будзе? Джаконда, напрыклад? Ад Леанарда проста не застанецца нічога... Сядайце да стала, прашу вас...

Ён зрабіў шырокі жэст. Магда, як бывала і раней, села поруч зь ім, але Ева дэманстратыўна разьмясьцілася побач з Марцінам.

— Дазволіце мне паклапаціцца пра вас, партайгеносэ? — прасьпявала яна ціхенька. — Вось жа вы нейкі самотны...

— Чаму гэта? — спахапіўся Адзі.

— Я маю на ўвазе ў інтэлектуальным сэнсе... У інтэлек-туальным! — растлумачыла сваю думку Ева.

— Вы калі-небудзь задавалі сабе пытаньне, чаму сярод фінаў столькі вар’ятаў і чаму у чэхаў вусы заўсёды глядзяць уніз? — зьвярнуўся да ўсіх фюрэр.

Усе адмоўна захіталі галовамі, нібы наперад адмаўляліся абмяркоўваць такія складаныя пытаньні.

— А я задаваў, я задаваў... — прамармытаў фюрэр, і ў голасе ягоным пачуўся надрыў. — Начамі ня спаў ад гэтых пытаньняў, яшчэ ў юныя гады трапятаў, прадчуваючы адкрыцьці... Гэтыя бясонныя ночы дзіцячага шчасьця, гэтая сьвежасьць арганізму, не абцяжаранага адказнасьцю за лёсы сьвету...

Фіны вар’яты ад таго, што ў іх увесь час зіма і паўночнае зьзяньне, — адсёк Адзі. — Усе паўночныя народы вар’яцеюць ад гэтага. Сьнег выпраменьвае тугу. Тугу...

Вочы ягоныя памутнелі. Усім здалося, што ён зараз завые.

У чэхаў вусы растуць уніз ад таго, што яны паходзяць ад манголаў, — працягваў прамоўца. — Немцам пашанцавала, моцна пашанцавала. Паўночнае зьзяньне іх не кранула, а манголы прайшлі стараной. Цёплы клімат быў калыскаю старажытных германцаў. Ён спрыяльны для біялягічных мутацыяў, ён вызваляе схаваныя сілы ў чалавеку! Але любыя мутацыі — лухта, дзіцячая забава, калі няма руху... Няма пугі, якая прымушае народ рухацца! — і Адзі ўзмахнуў уяўнаю пугай. — Любы народ у сваіх нацыянальных межах падобны да стаячай вады. Ён загнівае, пакрываецца бросьняй. Такой вады не пап’еш. Такой вадой ня ўмыесься. Нават човен засядзе... Толькі рух прымушае народ абмалоджвацца, вылучаць на перадавыя пазыцыі самых нахабных, дзёрзкіх і разумных! Ломка нацыянальных межаў падобная да веснавой паводкі. Рака разьліваецца й цячэ, як ёй захочацца. Народы йдуць, самі не ведаючы куды! Вада ачышчаецца й робіцца крынічнай. Мэта гэтага руху няважная сама сабою, бо якая можа быць у руху мэта? Толькі сам рух!

Фюрэр перапыніўся, стаміўшыся ад свайго маналёгу.

— Пра што гэта я казаў? — спытаўся ён пасьля доўгае паўзы.

— Вы казалі пра народы, — падказаў Ёзаф, нечакана стаўшы сур’ёзным.

— Ня толькі. Я казаў пра вайну, — выдыхнуў Адзі. — І ня скардзіцеся адзін аднаму пасьля гэтага, што вам няясныя яе мэты.

Недзе ў цемры завыў сабака...

Адзі ўвайшоў у спальню, запаліў лямпу на начным століку і пачаў выварочваць сашчэпленыя ў далонях рукі. Ён усё яшчэ ня мог супакоіцца пасьля размовы, зь нечым спрачаўся. Раптам ён адчуў, што ў куце спальні нехта хаваецца, ня зводзячы зь яго вачэй. Каб лепей разглядзець госьця, Адзі надзеў акуляры...

Гэта была Ева, якая, неяк дзіўна сьцяўшыся, трымала перад сабою ў выцягнутых руках пісталет. Ягоная руля была скіраваная фюрэру проста ў сэрца.

Адзі зьняў акуляры, закусіў дужку краем роту... Задумаўся.

Рукі Евы дрыжэлі, пісталет хадзіў зьнізу ўверх, як патанок на хвалі.

— Бабуля Гітлер, — раптам сказаў Адзі траскучым голасам. — Дзядуля Гітлер... Тата Гітлер, мама Гітлер... — вусны ягоныя скрывіліся ў грэблівай усьмешцы. — Дачка Гітлер, сынок Гітлер... Сынуля!.. І усе Гітлеры! — горка дадаў ён. Цэлая сямейка Гітлераў! Усе сьмярдзяць, храпуць, пярдзяць і рыгаюць, седзячы за адным сталом... Рыгаюць! — ягоная правая рука сьціснулася ў кулак. — Стаяць у чэргах у прыбіральню. Чухаюцца. Калупаюцца ў зубах і ў носе! Спакою ім захацелася!? — страшна спытаўся ён. — Утульку!? Плюшавых крэслаў!? Сямейнага бульёну!? Сужэнскіх майткаў!? — плечы Евы пераомыкнуліся.

— Каб бюргер тлусьцеў і раскладаўся ад тлушчу, а ягоная палова бруха цела штогод, як апошняя сука!?

Адзі затаргаўся. З роту ў яго паляцелі сьліні.

— Каб па вечарах усе пілі гарбату, па нядзелях хадзілі ў царкву; а потым смакталі піва пад дрэвам і жэрлі сасіскі?! Сасіскі! — з агідай выдыхнуў ён. — Каб кожныя чатыры гады яны выбіралі б сабе якога-небудзь жыдовіна сабе ў начальнікі, а ён бы раскрадаў скарб! Напіваўся б у дым на дыпляматычных прыёмах! І заражаў бы сіфілісам іхных дачок! Сіфілісу?! Сіфілісу хочаце?!

Ён кіпеў, як вулькан.

— Ня будзе вам спакою! Ня будзе сямейнага бульёну! Ня будзе сужэнскіх майтак! І сіфілісу ня будзе! А будзе пуга! Вам, свалачам, будзе пуга! — Адзі зноў махаў сваёй уяўнай пугаю, і на сьцяне мільгалі вялізныя цені. — Я ня дам вам спакою! Я буду хвастаць вас і хвастаць! Трыццаць гадоў! Сорак гадоў! Пакуль вы з быдла не ператворыцеся ў людзей...

І тут Ева ня вытрывала.

— А-а-а! — закрычала яна, і, замест таго, каб стрэліць, кінула ў фюрэра пісталет.

Кінула ўдала. Гітлер упаў на дыван. Ева накінулася на распластанае цела і ў запале пачала таптаць яго нагамі.

Адзі ўхітрыўся ўсё ж высьлізнуць з-пад ейных абцасаў, вываліўся ў вакно, пабег па гаўбцы, кульгаючы. Крысы фрака нагадвалі крылы. Ева кінулася сьледам за ім, схапіўшы ў рукі настольную лямпу.

На вуліцы сьвяціў месяц. Вясёлыя зоркі мігцелі ў густым паветры. Яна здагнала яго ў сваёй спальні, зваліла на падлогу і ўселася на фюрэра, як на дзікага жарабца.

Ён стагнаў пад цяжарам гэтага здаровага няўёмнага цела. Ева закаціла вочы і стала падобная на шалёную. Хутка і рэзка засовала клубамі. З вуснаў скацілася доўгая сьліна і ўпала на белую кашулю фюрэра. Ён хрыпеў і плакаў ад задавальненьня...

*Паводле публікацыі ў часопісе «Огонёк» (Масква, 4 студзеня 1999 г.).*

# Кнігі выдавецтва «Наша Ніва»

Аляксандар Лукашук

## У фіялетавай ночы вугал крыла

*Дакумэнтальная проза*

Кніга прысьвячаецца «усім, з кім аўтар выпіваў у 1982-1990 гадах, а таксама перад і пасьля». Аўтар выпіваў з калегамі-журналістамі, сьвятарамі, дыпляматамі, старшынямі калгасаў, палкоўнікамі, афіцыянткамі, старымі бальшавікамі ды іншымі асобамі лёгкіх паводзінаў, у тым ліку з адным кандыдатам у члены Палітбюро ЦК КПСС, а таксама — з анёламі.

Несур'ёзная фізіялёгія сумнай эпохі, нататкі перабежчыка, від на час з-заду, ці дакладней — зь сярэдзіны самога сябе.

*«Дабро і зло куляліся ў гэтай гісторыі як клоўны на арэне. Гледачы раптам апынаіся ў адной клетцы са зьвярамі. Усё залежала ад пункту гледжаньня. А таксама — ад сілы зроку...»*



**Аляксандар Лукашук** (нар. 1955), скончыў Інстытут замежных моваў у Менску, працаваў перакладчыкам, журналістам, у дакумэнтальным кіно (Дзяржаўная прэмія за фільм «Дарога на Курапаты», 1994). Аўтар кніг «Зьдзек», «Філістовіч. Вяртаньне нацыяналіста», «За кіпучай чэкісцкай работай» (міжнародная прэмія Беларускага Пэн-Цэнтру, 1998). З 1993 — на Радыё Свабода.

Выдавецтва «Наша Ніва», 1999 (люты). 160 старонак.

Славамір Адамовіч

## Плавільшчыкі расы

*Паэзія*



У кнігу выбранае паэзіі ўвайшлі лепшыя вершы з ранейшых зборнікаў «Кальварыйскія клёны» (1990), «Зямля Ханаан» (1993), «Зваротныя правакацыі» (1994), «Каханьне пад акупацыяй» (1996), «Сьпіраль Бруна» (1998), а таксама творы, напісаныя пасьля 10-месяцовага зьняволеньня ў турме. У дадатку — літаратурная аўтабіяграфія С.Адамовіча і крытычны аналіз ягонае творчасьці.

***

Каляды. Посная Куцьця.
Ня піша пісьмаў Арганістка.
Вісіць над установай сьцяг
усенароднага фашыста.

У пераходах прадаюць
падпольную літаратуру,
якую ў Вільні выдаюць
мне невядомыя структуры.

Зіма крыху. Сьняжок ледзь-ледзь.
Бамжы акупавалі крамы,
дзе можна цэлы свае грэць,
наколкі сінія і шрамы.

Зіма! Вярнулася, далібог!
Іду з праглядзу «Мадэрністаў»,
і кліча штосьці за парог,
у запарожжа рэканістаў.

*1995 год, Каляды*



**Славамір Адамовіч** (нар. 1962) паэт-«правакатар», стваральнік палітычнага пэрфомансу — арганізацыі «Правы рэванш» і першы палітычны вязень Лукашэнкавага рэжыму, які 10 месяцаў (1996) правёў у турме за верш «Забі прэзыдэнта». Між тым, у большасьці сваіх твораў Адамовіч выступае як тонкі лірык і мэтафарыст, асноўныя тэмы вершаў — каханьне, вайна, Бацькаўшчына; характар паэзіі экспрэсіўны, напорысты і адначасова прадметны, рэалістычны.

Выдавецтва «Наша Ніва», 1999 (люты). 190 старонак.

## Архівы БНР. Дакумэнты

*Гісторыя. Навуковае выданьне*




Упершыню публікуюцца сабраныя ў архівах дакумэнты Беларускай Народнай Рэспублікі (1918-1920-я гады).

Падаюцца лёс і адрасы ўсяго архіву БНР.

Укладаньне і камэнтар Сяргея Шупы.

Выдавецтва БІНІМ і «Наша Ніва», 1999 (сакавік). 2 тамы па 900 старонак, ілюстрацыі, цьвёрдая вокладка.

## Беларускі правапіс

*Навуковае выданьне*




Упершыню традыцыйны правапіс беларускай мовы, які быў зьменены пастановай СНК БССР у 1933 г., перагледжаны для сучасных умоваў і спарадкаваны. Аўтар праекту — Вінцук Вячорка. Абноўлены правапіс зацьверджаны навукова-практычнай канфэрэнцыяй «Праблемы нармалізацыі клясычнага беларускага правапісу (Прага, сьнежань 1998).

Кніга рэкамэндуецца для ўсіх карыстальнікаў «тарашкевіцы».

Выдавецтва «Наша Ніва», 1999 (травень). 60 старонак.

## Вільня ў беларускай паэзіі

*Паэтычная анталёгія*



У кнігу ўключаныя вершы, песьні, паэмы, прысьвечаныя Вільні — ад народных песень і старажытных балядаў да клясычных і сучасных твораў. Можна напэўна сказаць, што ў найлепшых беларускіх паэтаў найлепшыя творы — пра Вільню. Абсалютны шэдэўр у гэтым шэрагу — «Пагоня» Максіма Багдановіча. Спаміж іншых аўтараў: Янка Купала, Якуб Колас, Натальля Арсеньнева, Уладзімер Жылка, Максім Танк, Уладзімер Караткевіч... У дадатку — артыкул Антона Луцкевіча «Вільня ў беларускай літаратуры». Укладальнік С.Дубавец.

Выдавецтва «Наша Ніва», 1999 (вясна-лета). 200 старонак, ілюстрацыі.

Васіль Быкаў

## Ваўчыная яма

*Проза*




Кнігу складуць найноўшыя творы пісьменьніка, напісаныя ім у 1998 годзе ў Фінляндыі — аповесьць «Ваўчыная яма», апавяданьні, вусныя выступы.

Выдавецтва «Наша Ніва», 1999 (вясна-лета). 200 старонак.

Зоя Каўшанка

## Успаміны

*Мэмуары*

Словамі актыўнай удзельніцы беларускага адраджэнскага руху ў Вільні кніга распавядае пра розныя этапы гэтага руху і лёсу самой аўтаркі: Віленская Беларуская Гімназія ў міжваенны пэрыяд; Беларускі Нацыянальны Камітэт за часамі нямецкай акупацыі; хваля паваеннай беларускай эміграцыі ў Нямеччыне і Англіі; арышт супрацоўнікамі НКВД, 10 месяцаў у адзіночцы менскай турмы, ГУЛАГ...

Выдавецтва «Наша Ніва», 1999 (вясна-лета). 200 старонак, ілюстрацыі.

Алесь Адамовіч

## Тры аповесьці

*Проза*




Тры апошнія аповесьці, якія былі надрукаваныя ў пэрыёдыцы яшчэ пры жыцьці аўтара, але ніколі не публікаваліся ў кніжным фармаце.

Выдавецтва «Наша Ніва», 1999 (вясна-лета). 200 старонак.

*Рыхтуецца выданьне альбому Міхася Раманюка*

## «Беларускія народныя крыжы»




**Новая ілюстраваная манаграфія Міхася Раманюка была падрыхтаваная аўтарам яшчэ пры жыцьці. За 25 гадоў вандровак па ўсіх рэгіёнах Беларусі Міхась Раманюк сабраў мноства зьвестак пра непаўторныя асаблівасьці беларускага пахавальна-памінальнага абраду, зрабіў тысячы ўнікальных фотаздымкаў надмагільных і абракальных беларускіх крыжоў і магілаў, сабраў вусныя сьведчаньні старых людзей. На падставе гэтых дакумэнтаў зробленая поўная сыстэматызацыя й клясыфікацыя ўсіх формаў і функцыяў крыжоў, месцаў іх устаноўкі па ўсёй Беларусі. Аналягаў гэткага выданьня няма ў нашых суседзяў, а ў Беларусі й ня будзе, бо носьбіты аўтэнтычнае традыцыі адыходзяць у нябыт, а большасьць прадстаўленых помнікаў страчана незваротна... Альбом зьмяшчае больш за 150 аўтарскіх здымкаў і замалёвак. Аб'ём 100 старонак, фармат 24х30 см. Мы зьвяртаемся да ўсіх, хто зацікаўлены ў пашырэньні традыцыйнае беларускае культуры, з просьбай паспрыяць выданьню кнігі. Бяз Вашае дапамогі выданьне будзе немагчымае.**

**Адрас для імянных чэкаў і пошты: Ramaniuk Dzianis, a/d 2566, Vilnius, 2009, Lithuania.**

# Анонс 1999 году

Зоська Верас

## Дзёньнік

*Успаміны*



Ніколі не публікаваныя дзёньнікавыя запісы славутай віленскай мэмуарысткі, зробленыя ў 1910-20-я гады.

Выдавецтва «Наша Ніва», 1999 (вясна-лета). 200 старонак, ілюстрацыі.

## Беларуская эміграцыя

*Зборнік*




Уключаныя найлепшыя, хрэстаматыйныя тэксты розных жанраў, якія былі створаныя беларускімі пісьменьнікамі ў эміграцыі і за савецкім часам не ўвайшлі ў культурны, літаратурны, навуковы і адукацыйны кантэкст у Беларусі. «Каханы горад» Юстапчыка, «Лёнданская лекцыя» прэзыдэнта БНР М.Абрамчыка і інш. Некаторыя тэксты публікуюцца ўпершыню. Кніга мае камэнтары і даведачны апарат.

Выдавецтва «Наша Ніва», 1999 (вясна-лета). 200 старонак, ілюстрацыі.

## ВКЛ

**Беларуска-літоўска-польскі дыялёг**

*Зборнік*

Артыкулы, эсэ, гутаркі беларускіх, польскіх і літоўскіх аўтараў, прысьвечаныя сталіцы Вялікага Княства Літоўскага Вільні, а таксама розным поглядам на супольную гісторыю ў ВКЛ і Рэчы Паспалітай.

Выдавецтва «Наша Ніва», 1999 (восень). 200 старонак, ілюстрацыі.

## Сучаснае беларускае апавяданьне

*Мастацкая літаратура*

Сучаснае беларускае апавяданьне 1999

Лепшыя навэлы беларускіх пісьменьнікаў, створаныя ў постсавецкай, посткамуністычнай Беларусі. Даюцца разгорнутыя характарыстыкі творчасьці кожнага аўтара.

Выдавецтва «Наша Ніва», 1999 (восень). 200 старонак, ілюстрацыі.

## Сучасная беларуская паэзія

*Мастацкая літаратура*

Сучасная беларуская паэзія 1999

Лепшыя вершы беларускіх паэтаў, створаныя ў постсавецкай, посткамуністычнай Беларусі. Даюцца разгорнутыя характарыстыкі творчасьці кожнага аўтара.

Выдавецтва «Наша Ніва», 1999 (восень). 200 старонак.

## Сучасны беларускі пераклад

*Мастацкая літаратура*

Сучасны беларускі пераклад 1999

Упершыню перакладзеныя на беларускую мову творы клясыкаў сусьветнай літаратуры — **А.Э.По, А.Камю, Х.Л.Борхеса, Л.Дарэла, М.Кундэры, Б.Шульца, В.Гамбровіча, Ч.Мілаша** ды іншых.

Выдавецтва «Наша Ніва», 1999 (восень). 200 старонак.

## Паэт у турме

*Дакумэнты, дзёньнікі, вершы*




Кніга прысьвечана беларускаму паэту Славаміру Адамовічу, які 10 месяцаў (1996-1997) правёў за кратамі КГБ за напісаны ім верш «Убей президента». Турэмныя дзёньнікі і вершы Адамовіча, дакумэнты судовага працэсу, водгукі ў прэсе (артыкулы, апэляцыі, пратэсты ПЭН-цэнтраў і г.д.) склалі зьмест гэтай кнігі.

Выдавецтва «Наша Ніва», 1999 (восень). 200 старонак.

## Чачэнскі дзёньнік

*Журналістыка*

Кнігу склалі рэпартажы, інтэрвію, падарожныя нататкі незалежных беларускіх журналістаў, якія наведвалі паваенную Чачэнію, прысутнічалі на выбарах прэзыдэнта Рэспублікі Ічкерыі, высьвятлялі імёны і біяграфічныя зьвесткі беларусаў, якія бралі ўдзел у чачэнскай вайне з абодвух бакоў. Аўтары кнігі — журналісты Тацяна Сьнітко, Алег Дашкевіч, Лёлік Ушкін і іншыя.

Выдавецтва «Наша Ніва», 1999 (восень). 200 старонак.

Тацяна Сапач

## Вершы

*Мастацкая літаратура.*

Новы зборнік паэткі.

Выдавецтва «Наша Ніва», 1999 (восень). 100 старонак.

Зьміцер Бартосік

## Чорны пісталет

*Мастацкая літаратура*




Дэбютная кніга маладога празаіка, у якога тэмы станаўленьня нацыянальнае сьведамасьці і беларускай культуры сьцісла сплятаюцца з крымінальнымі сюжэтамі.

Выдавецтва «Наша Ніва», 1999 (восень). 120 старонак.

Сяргей Харэўскі

## Сто твораў беларускага мастацтва XX ст.

*Мастацтва*



Сэрыя эсэ, прысьвечаных шэдэўрам беларускага мастацтва.

Выдавецтва «Наша Ніва», 1999 (зіма). 400 старонак, ілюстрацыі.



Сяргей Харэўскі

## Міжваеннае культавае дойлідзтва Беларусі

*Навуковае выданьне*

Сяргей Харэўскі Міжваеннае культавае дойлідзтва Беларусі 1999

Упершыню ў адной манаграфіі апісаныя праваслаўныя, каталіцкія, пратэстанцкія і нехрысьціянскія сьвятыні, збудаваныя ў Беларусі «за польскім часам», — у міжваенны пэрыяд.

Выдавецтва «Наша Ніва», 1999 (восень). 120 старонак, Ілюстрацыі.

Мэва Марон

## Кніга сутоньня

*Эсэ*




Літаратуразнаўчыя эсэ ірляндзкай пісьменьніцы, у якіх дасьледуецца фэномэн літаратурных узаемасувязяў, найперш, беларуска-кельцкіх.

Выдавецтва «Наша Ніва», 1999 (восень). 120 старонак, ілюстрацыі.

**БЕЛАРУСКІЯ МАРШЫ І ПЕСЬНІ**

музычны зборнік, аўдыёкасэта і CD




Выдавецтва

**«НАША НІВА»**

**выпусьціла музычны зборнік**

«Беларускія маршы і песьні» – гэта супольны праект рэдакцыі газэты «Наша Ніва» і камэрнага мужчынскага хору «Унія». Разам з нашым зборнікам патрыятычных песень выйшлі ў сьвет аўдыёкасэта і CD з гэтымі самымі творамі ў выкананьні хору. Акрамя ўласна маршаў і гімнаў у сьпеўнік уключаныя шэдэўры беларускай патрыятычнай песьні: «О, Беларусь, мая шыпшына», «Магутны Божа» ды іншыя. Праект прысьвечаны 80-м угодкам Беларускай Народнай Рэспублікі.

**Набыць зборнік і запісы можна праз незалежную сетку распаўсюду.**

Па даведкі тэлефануйце ў рэдакцыю «НН».



Славамір Адамовіч

# ТРАНСПАРТ НА ВІЛЬНЮ

I

У Вільню люблю прыяждаць цягнікам — менш праблемаў на мытні.

За саветамі таксама чыгункай дабіраўся — так званым дызэлем. І хоць тады на мяжы паміж гістарычнай Вялікай Літвой і Літоўскай ССР ніхто нашы валізкі не правяраў, але казусы здараліся.

Вясною 1989 году мяне з групай барысаўскіх школьнікаў цягнік даімчаў у Коўна, адкуль мы на роварах выправіліся ў вандроўку. Першая ж спроба захаваць на аматарскім фотаздымку цікавы архітэктурны стыль аднаго ковенскага дому, які стаіць недалёка ад вакзалу, скончылася засьвечанай плёнкай. Аказалася, што ў будыніне, якую сфатаграфаваў наш кіраўнік Валеры Пчолка, месьціўся мясцовы КГБ.

Летам 89-га ў Вільні адбыўся першы зьезд БНФ. Чыгунка, транспартуючы дэлегатаў зь Менску ў Вільню і назад, тым самым актыўна спрычынілася да арганізацыйнага ўмацаваньня беларускага нацыянальнага супраціву.

У студзені 1991 году цягнік прывёз мяне на Віленскія барыкады. Гарэлі вогнішчы, круцілі савецкія фільмы, падвозілі гарачыя сардэлькі, літоўскі хлеб і какаву з малаком.

Восеньню 1992 году гасьцяваў у рэдакцыі аднойленай «Нашай Нівы» і абпіваўся кавай у новаадкрытых віленскіх кавярнях і пабах.

Потым паміж Літвой гістарычнай і Літвой сучаснай паўстала мяжа. Зьявілася патрэба ў адмысловых пашпартах і візах.

Чацьвертага красавіка 1996 году, ужо знаходзячыся пад падпіскай пра нявыезд за межы Беларусі ў сувязі з адкрыцьцём крымінальнай справы №182 паводле факту публікацыі верша «Убей президента», сеў на маршрутны аўтобус «Менск-Вільня». З сабою ў мяне былі пашпарт, сто даляраў, складны нож і ключы ад пакою. На прыпынку ў Ашмянах даў шафёрулітоўцу пяць даляраў і папрасіў высадзіць мяне мэтраў за сто ад беларускага КПП. На літоўскім баку ён мусіў таксама спыніцца, але ўжо каб забраць мяне пасьля таго, як я перайду мяжу нелегальна.

Зь першых жа крокаў па цяжкім красавіцкім сьнезе, у які я завальваўся ледзь не па пахі, стала зразумела, што мне, бадай, ня ўдасца патрапіць на літоўскую тэрыторыю. Дурное жаданьне пасьпець перайсьці мяжу, каб сесьці на маршрутны аўтобус, выштурхнула мяне на сьцежку, дзе я й быў затрыманы беларускім памежным нарадам. Спатканьне зь Вільняй прыйшлося адкласьці на няпэўны тэрмін.

II

25-га верасьня 1998-га. Менск-цэнтральны, чыгуначны вакзал. Дваццаць трэцяя каляя. Цягнік на Вільню. Утульнае купэ ў літоўскім вагоне. Суседзі: беларускія студэнты, якія выйдуць у Смаргоні й Гудагаі; дзьве сталага веку жанчыны, сёстры — адна з Лодзі, другая зь Вільні; жыдок у веку за шэсьцьдзесят і мітусьлівы расейскамоўны мужычок, таксама віленскі.

У маіх кішэнях тыя самыя ключы і той самы складанчык. Даляраў шмат ня браў, каб не распашырыць без асаблівай патрэбы. Новы каляніяльны пашпарт, забраны ў чорную вокладку з «Пагоняй». Літоўская гадавая віза. Здаецца, усё, што трэба мець, каб безь перашкодаў транспартавацца праз мяжу. Першы раз пасьля драматычных спробаў у 96-м.

Цягнік наш крануўся. Замаўляю ў правадніцы каву. Мая беларуская мова правакуе суседзяў на завязаньне размовы. Хвілін праз 15-20 расейскамоўны выяўляе свае нэгатывы да Літвы і пазытывы да ППРБ, пасьля чаго ён перастае мяне цікавіць. Тады мужычок пераключаецца на студэнтаў, якія, аднак, у размову не ўступаюць. Тым часам віленская «полька» распавядае, што апошні раз была ў Беларусі гадоў дваццаць таму. У Менск выбралася на дзень, хацела купіць арыгінальную беларускую ляльку, але ня ведала, дзе шукаць. Моцна зьдзівілася, калі я растлумачыў, што людзі ў плямістай форме, якіх яна бачыла на вуліцах нашай сталіцы, гэта і ёсьць наша міліцыя.

Нарэшце і мяжа. Тоўстыя, мардатыя беларускія мытнікі, стройнейшыя літоўскія. І адны, і другія пакінулі ў маім сінім пашапарце свае штампы. Цяпер шлях на колішнюю сталіцу ВКЛ адкрыты... На віленскім чыгуначным вакзале лёс падпільнаваў мяне ў асобе маладой літоўскай правінцыялкі, якая сышла з прыгараднага цягніка ўнутраных ліній і, нагружаная валізкамі, спрабавала зарыентавацца ў прасторы тэрміналу. Калі ж я паднёс ейныя рэчы, то дзяўчына аказалася дастаткова энэргічнай, каб аддзячыць мне пацалункам у шчочку. І гэта быў сапраўды цудоўны пачатак.

III

Цікавы працяг меў месца ў рэстарацыі, назву якой так і не запомніў. Затое надоўга, думаю, запомніцца фірмовы наедак, якім не без задавальненьня пачаставаў мяне сябра. Наедкам было... сьвіное вуха, запечанае ў дзёртай бульбе (з такой рыхтуюць нашы знакамітыя дранікі). Ліквідаваўшы палавіну і аблізваючыся над рэштай, я раптам задаўся дурным пытаньнем: адкуль літоўцы бяруць столькі сьвінак, каб іхнімі вушамі карміць наведнікаў? Прыкладам, калі штодня ў гэтай рэстарацыі 50 грамадзянаў Літвы і гасьцей сталіцы заказваюць толькі па адным вуху, гэта ўжо 25 лычастых трэба адправіць на бойню? А калі заказваюць не адно, а два? А калі не 50, а 100 ласых заказваюць па два вухі? Гэта ж несусьветныя лічбы! Схамянуўшыся пад насьмешлівым позіркам таварыша, я ўспомніў пра піва і схаваў калькулятар. А ўзга-

# Халодны сьнег на чорным

Традыцыя віленскага фотакраявіду была запачаткаваная разам зь беларускай фатаграфіяй наогул. Першы здымак Вільні зроблены Аьбэртам Сьвяйкоўскім яшчэ ў 1854 годзе. А ўжо фатаздымкі Язэпа Чаховіча (які, дарэчы, здымаў паўстанцаў 1863 году), укладзеныя ў альбом «Виды Вильны», атрымалі залатыя й срэбныя мэдалі на міжнародных выставах у Парыжы, Рыме і Маскве.



Доўгі пэрыяд тэма віленскага фота зьвязаная з імем Яна Булгака. Вынікам ягоных гарадзкіх блуканьняў (часьцяком напару з Іванам Луцкевічам) сталі дзьве фундамэнтальныя сэрыі 1912-1919 і 1926-1936 гадоў. Ён першы стаў ня проста фіксаваць, а стварацьм. Выкарыстоўваючы розныя тэхналегіі вырабу здымкаў, ён ствараў дадатковую, паралельную рэальнасьць...

Па вайне зь беларускага фотамастацтва Вільня выпадае цалкам, роўна ж як і з нацыянальнай сьведамасьці. Сорак гадоў амаль поўнага зьняменьня нацыі сталі гадамі, страчанымі для нашага разуменьня гэтага места.

НЭАвіленскі пэрыяд прыпадае на канец 80-х. Тады, апантаныя ідэяй ПОЎНАГА адраджэньня, да Вільні сьцякаліся пілігрымы з усяе Беларусі. У шчыльна напоўненых вагонах экспрэсу «Менск-Талін» штовыходныя гаваркі «прыбой» каціўся да свайго запаветнага места, як да Зямлі Абяцанай. У каго тады не было хоць пару ўласных здымкаў з пазнавальным віленскім відарысам! Вільня зноў пранікала ва ўсе поры беларускае сьведамасьці, працінала самыя патаемныя, ледзь улоўныя памкненьні душаў. Уголас ніхто не прамовіў, што Вільня — наша. Пра гэта ня тое што забаронена было казаць, але не прынята. Пра гэта маўчалі падручнікі і газэты. Але віленскасьць працякала, як мёд скрозь соты, і наталяла па кроплі засьмяглыя сэрцы. Ці то з кніжак Мальдзіса альбо Ліса, ці то зь міжрадкоўя энцыкляпэдычных дэфініцыяў віленскасьць нашае культуры пачынала праяўляцца, як выява на фотапаперы, пад чырвоным сьвятлом. Тое, што мы вынесьлі з чырвонае мінуўшчыны на сьвятло дня — гэта чыстую, як травеньская квецень, надзею на Вільню.



Першым з прафэсіяналаў тэму Вільні ў нашым фотамастацтве ўзнавіў Уладзімер Парфянок. Ягоная сэрыя здымкаў 1987 году, прачыняла вакенца ў новы, малавядомы ўжо ў БССР, сьвет паўсядзённага віленскага жыцьця. Ня звычнага для чужога турыста экзатычнага эрзацу, а менавіта жыцьця ў ягоных банальных праявах. Мэтад Парфянка, у рэчышчы моднага тады «новага нэарэалізму», дазволіў пагледзець на гэты горад праз камбінацыі выпадковых плянаў. Рэалізм ператвараецца ў сарказм, досьціп — у абсурд. Гэткім спосабам места, якое адаптуецца да банальнасьці дзеля ўраўнаважаньня адчуваньняў з астатнім (тады савецкім) беларускім сьветам, не набліжаецца, а наадварот, замыкаецца ў сабе, як сьлімак у ракаўку, ад гарэзьлівага і непачцівага позірку аб'ектыва. Але гэта была першая спроба знайсьці агульную мову. Падпісваючы апошні здымак зь віленскае нізкі «Дамоў», бадай ні сам аўтар, ні хто іншы ня мог прадбачыць, што ўсяго праз тры гады гэтае слова будзе ў Вільні скандзіравацца рэфрэнам...

Менавіта ў тую, распаленую Вільню, у паветра, дзе яшчэ лунаў подых новапрыдбанае свабоды і пах пораху, памкнуліся і нашыя фотажурналісты — Грыц, Кляшчук, Крыштаповіч. Тысячы здымкаў, зробленых у той час менавіта беларускімі фатографамі... не фіксуюць драматычнае віхуры аднаўленьня літоўскае дзяржаўнасьці. Яны даносяць да нас толькі віленскае сьвятло. І яго беларускасьць. Існавала падсьведамая пераканаць, што неўзабаве яно вельмі спатрэбіцца.



На творах Крыштаповіча гэта адбілася зусім літаральна: дом, дзе друкаваў Скарына, дом, дзе быў зьняволены Каліноўскі, дом, у якім была кватэра Купалы... Дахоўка, муры, брук... Дарэчы, Крыштаповіч зрабіў і нізку клясычных віленскіх партрэтаў: Лявон Луцкевіч, Зоська Верас, Данчык з Барткевічам і Сокалаў-Воюш у віленскім двары.

Сьвятло Вільні неўзабаве сапраўды надалося. На працягу 1991-1993 гадоў дзясяткі здымкаў гэтага места зьявіліся ў розных беларускіх часопісах — ад «Беларусі» да «Крыніцы» зь «Бярозкаю». Беларусь, нібы ў прадчуваньні новага доўгага расстаньня, прагавала да яго свае рукі, нібы дзіцё да маці, спрабуючы запомніць самыя драбнасткі аблічча.



Падчас падрыхтоўкі ў часопісе «Нёман» кнігі Лявона Луцкевіча «Вільня» (N12, 1992) сюды, на былы пасад, адмыслова быў накіраваны фатограф Ганчарэнка. Яны разам, захопленыя стары віленчук і зьбянтэжаны ягоным красамоўствам, увесь час зьдзіўлены фатограф зь Менску, цэлымі днямі блукалі па месьце. Узьнімаліся на касьцельныя вежы, кружлялі ў суплёце вуліц, караскаліся па гарах... Гэтак двума аўтарамі была створаная самая поўная, анталягічная нізка здымкаў, якая аднак не патрапіла ў часопіс... Нешта надалося там, нешта тут. У хуткім часе гэтыя здымкі, безьліч разоў перабраныя рукамі Луцкевіча,

даўшы пра тое, зь якой краіны я прыехаў, мне, каб не згубіць апэтыту, тэрмінова прыйшлося заказаць да рэштакў сьвіногa вуха 50 літоўскай гарэлкі.

Назаўтра было цяжкавата і не было апэтыту. Але мой верны сябра ізноў угаварыў мяне на паход у рэстарацыю. Гэтым разам у іншую — паабедаць. Не, я не пайшоў бы, каб не спадзяваньні на тое, што які-небудзь бурачны ўзвар ці зупа з хлебнымі галушкамі кшталту той, якую шасьцю месяцамі раней сёрбаў у аднэй кракаўскай рэстарацыі, папраўць мой пахмельны стан. На жаль ці на шчасьце, але пасюгаць рэдкага мне не ўдалося: боршч быў настолькі густы, што нават жалезная лыжка ў ім не хацела патанаць. Урэшце рэшт мы зь сябрам папрасілі афіцыянта скласьці наш абед у пакеты.

Даядаючы сваю порцыю ўжо ў Менску, я з асаблівай душэўнай пяшчотаю думаў пра Вільню і літоўцаў, якія так умела перахоўваюць нашу беларускую кухню.

IV

Лістапад 1998-га. Дзённы аўтобус «Менск-Вільня». У салёне назіраю супрацоўніка Беларускага Хельсінскага Камітэту, даволі вядомага беларускага гісторыка, а таксама народнага дэпутата. Не памыліўся, падумаўшы, што канцовая мэта нашага перамяшчэньня аднолькавая — горад, дзе нас чакаюць.

І вось едзем. У Ашмянах наш транспартны сродак апаноўваюць жанчыны пэнсійнага ўзросту зь негабарытнымі клункамі. Адна зь іх просіць мяне і майго суседа дапамагчы правезьці некалькі бутэлек крамнай беларускай гарэлкі й дзьве-тры кілі самабойнага масла. Паколькі ў таварыша з БХК у сумцы два законныя паўлітэркі булькаюць яшчэ ад пачатку маршруту, то два незаконныя «фляконы» і качулачку масла я бяру на сябе: мая чорная тэчка зь дзьвюма жоўтымі зашчапкамі адразу набывае нейкую своеасаблівую ацяжэласьць, грунтоўнасьць, як хочацца паважаць і аберагаць, як мнагадзетную маладую маці.

Пасьля мытна-памежнага шмону беларускі тавар пасьпяхова перамяшчаецца празь беларуска-літоўскую мяжу. Я вяртаю жанчыне ейнае дабро, якое, магчыма, яшчэ сёньня будзе пасьпяхова прададзена на адным зь Віленскіх міні-рынкаў, і прыслухоўваюся да размовы за сьпінаю. Гэта ізноў жанчыны: маладая і старэйшая. Селі таксама ў Ашмянах. Маладзейшая дзеліцца ўражаньнямі ад нядаўняй паездкі ў сталіцу Літвы. Зьвяртаю ўвагу суседа на мову маладой жанчыны: чым бліжэй мы падбіраемся да Вільні, тым брыдчэйшым робіцца маўленьне кабеты. Нармальная беларуская мова, зь якою яна зайшла ў аўтобус на прыпынку ў Ашмянах, ператварылася ў жахлівую кашу-трасянку. Мы з суседам аказваемся сьведкамі кафкіянскага працэсу атамізацыі чалавечага маўленьня. Бязбожна стары, дахрысьціянскі, дагістарычны інстынкт самазахаваньня па-за тэрыторыяй свайго арэалу прымушае жанчыну гаварыць на мове чужынца. Але інстынкт дае збой, прамашку. Там, куды едзе жанчына, прыкінуцца сваім можна толькі ведаючы літоўскую мову. Беларуская там не чужая. У крайнім выпадку — польская. А вось расейская там пралятае. Расейская ўвогуле пралятае, калі ёю спрабуе карыстацца несьвядомая беларуская душа.

Ужо мы каціліся па вуліцах Вільні, калі маладая раптам узгадала, што Літва цяпер жыве паводле сярэднееўрапейскага часу, і пасьпяшалася падзяліцца гэтай навіною са старэйшай. «У тры часы ў іх ужо СЕРА», — пачулі мы за сьпінаю і анямелі. Стала адначасова горача й халодна, вільготна на лбе і суха ў роце. Ад сораму хацелася праваліцца пад падлогу аўтобуса альбо катапультавацца скрозь столь у надвіленскае неба.

З тым і прыехалі.

Шарэла.

V

30 сьнежня 1998 году. Новы год еду сустракаць у Вільню. Білет на аўтобус каштаваў мне каля шасьцісот тысяч беларускіх рублёў.

Малады чалавек на крэсьле наперадзе мяне чытае «Навіны». Адрэкамэндаваўся журналістам. Едзе разам з жонкай. Пляную спыніцца ў якім-небудзь віленскім гатэлі і сустрэць удваіх прыход 1999 году.

На аўтавакзале ў Ашмянах перадапошні дзень 1998-га падобны на рабочы дзень кінаапэратара. Як нейкі дурны сон: адліга, брудны сьнег, убогія кіёскі з убогім таварам, няма цыгарэт, і натоўп пэнсійнага веку жанчын, якія з адчаем штрафбатавак штурмуюць аўтобус. Усё, як і мінулы раз, як і штодзень, толькі з большай экспрэсіяй, з большай — перадынавагоднім — роспачу.

Урэшце пранікненьне ў салён адбылося. Аўтобус крэкча, вохкае, лапоча, божкае, кляне. Так і едзем. Жанчына са сьлядамі былой пекнаты на цэры ўздыхае ўголас, ні да каго асабліва не зьвяртаючыся: «Вось каб зараз Вітаўт устаў ды пагледзеў, што ў ягоным Княстве робіцца!..»

Каб жа...

Гэтым разам ніхто не прасіў дапамагчы ператраляваць «лішні» тавар. На мытні таксама нікога не затрымалі. У Вільню прыехалі мы безь людзкіх стратаў.

На аўтавакзале я нарэшце загаварыў да дзяўчыны, зь якой мы неяк не зусім выпадкова сустрэліся позіркамі яшчэ на вакзале ў Менску. А яна як чакала — ахвотна адгукнулася. І аказалася, што ёй таксама трэба ў далекаваты ад цэнтру завіленскі раён Грыгішкі, і таксама на вуліцу 11-га сакавіка. Толькі яе чакалі ў доме №33, а мяне... Якраз у гэтым месцы мы і паставілі кропку.

*Менск, 1999 год*

# твары Хрыста

скрупулёзна праанатаваныя, расьцякліся па выдавецтвах, гэтак і ня склаўшыся ў ілюстраваную міні-энцыкляпэдыю, пра якую марыў дзядзька Лявон. Сёньня для новай энцыкляпэдыі яны ўжо не надаюцца. Амаль усё, што выяўлена на гэтых здымках, зьмянілася, хоць не прамінула яшчэ й сямі гадоў. Засталіся дамы... Але разам з імхом на ўчарнелай дахоўцы, са шчылінамі ў векапомных мурах, з палушчаным тынкам і гарбатым брукам, з пахамі дрывотнікаў, брыкету, цьвілі, сасісак і ячменнай кавы зь Вільні сыйшоў дух тае жывое беларушчыны, што ліпела тут усе паваенныя гады. І гэта можна ўваскрасіць хіба што па здымках Ганчарэнкі. Сёньняшняя Вільня — альбом новых здымкаў.



Пераасэнсаваць Вільню, унікнуўшы краязнаўства, спасьцігнуць яе сёньняшняе прызначэньне, схіляючы галаву перад, нарэшце, усьвядомленай рэчаіснасьцю, імкнецца сёньня Міхал Баразна. Ён, мастак-графік і мастацтвазнаўца, пераждыў блізу тую ж эвалюцыю стаўленьня да гэтага места, што і ягоныя папярэднікі. Але ён ужо ўбачыў у фактуры Вільні мазаіку самастойных, самадастатковых сваім паветрам аб'ектаў: дрыготкі сьцяг, пэўная ў сабе калёна, пустая пляшка на ганку, але і ў ёй віленскае паветра таксама. Мінімалізм у Баразны дазваляе асэнсаваць тэму на ўзроўні падсьведамасьці. Ягоны ўтароплены, ніба ў мэдытацыі, позірк спыняецца толькі там, дзе ёсьць падстава для верша. Як у Разанава:



Блукаю па Вільні.

На даўніх мурах

новыя назвы.

Дзяніс Раманюк, які пражыў у Вільні некалькі гадоў, знайшоў у месьце свой ракурс там, куды яшчэ не зазірала беларускае фота. Робячы партэты сваіх раўналеткаў-маладзёнаў, аднакурсьнікаў, выпадковых дзяцей, ён зазірнуў у вочы віленскай будучыні. Сэрыя называецца «Дзеці Зарэчча».

Алена Адамчык сярод сваіх папярэднікаў вылучаецца найперш тым, што яна ніколі не парывала з Вільняю. Пэўна, для яе адзінай, сярод беларускіх фотамастакоў, гэта горад дзяцінства. Неяк вядомы літоўскі актор Ёзас Будрайціс казаў мне, што ён гэтак і не спасьціг Вільні, хоць і пражыў тут ужо палову жыцьця. Бадай, каб разумець яе, трэба правесьці тут дзяцінства, расьці разам зь ёю і пачувацца бестурботна, як могуць пачувацца толькі дзеці. Вось тады гэты горад і становіцца сваім, як бацькоўская хата, праз колькі б гадоў ты сюды ні вяртаўся.



Алена Адамчык вярнулася ў Вільню ўжо фотамастачкаю і праз аб'ектыў сузірала не рамантычную даўніну, а знаёмую рэальнасьць.

Сэрыя здымкаў, зробленая ёю тут на пачатку 90-х, мела пэўны камэртон: Вільня ўваскрасае. Вось старажытная Пятніцкая царква, але ў рыштаваньнях, а з Пакроўскага сабору іх зьнялі, вось стос нягабляваных учарнелых гарбылёў на тле цнатліва белі сьвятыні, над касьцельнай вежаю завісла вежа пад'ёмнага крану. Гэта былі пошукі свайго ў сваім. Аўтарка, трапляючы ў сынхрон часу, гэтаксама адкрывае Вільню наноў, як нанава адкрываюцца нам padноўленыя муры.

Уражаныя віленчукі з подзівам узіраюцца ў зацягнутыя капронавай сеткаю, у захінутыя каляровымі платамі, у застаўленыя жалезнымі рыштаваньнямі старасьвецкія брукаваныя вуліцы свайго места. Аб'екты — дамы і вуліцы, захінутыя ад людзей нібы фіранкамі, зажылі іншым, нябачным жыцьцём. Уразіць саму Вільню, ці не прывабная мэта?

Здымкі, створаныя гэтай зімою, уражваюць іншым — сваім унівэрсалізмам. Прынцыпова вынятыя з кадру людзі, нават на ўзроўні стафажу. Аўтарка гаворыць зь местам сам-насам. І кожнае фота ператвараецца ў размову. Зацярушаныя сьнегам старыя могілкі, луска дахоўкі, зьбеленые цагляных брандмаўэраў. Францускі надпіс на магіле, выпадкова пакінутая чырвоная кветка ў руцэ зьмерзлага анёла. Нізка выпадковасьцяў, зь якіх складаецца плынь будзённасьці. Выпадковасьці нават там, дзе іх нібыта ня можа быць па вызначэньні. На старых вуліцах, у старых дварах, на старых могілках. Халодны сьнег на чорным твары Хрыста.



Я пабачыў у гэтых фота часьцінкі... Менску. Гэтак на яе ж здымках глядзелася менская Кальварыя, а гэты закінуты двор — рыхлы як у завулках на Ракаўскім. Досьвед, ранейшыя задумы і перажываньні замыкаюць кола, у якім і Вільня, і Менск палягаюць на аднэй непарыўнай лініі.

Апошнія фатаграфічныя сэрыі, створаныя Аленаю Адамчык у Вільні напрыканцы тысячагодзьдзя, заканчваюць нэавіленскі пэрыяд у беларускай фатаграфіі. За ім адкрываецца новы, дзе больш уласнага аўтарскага пачуцьця, пазбаўленага фантомаў ці няпэўнасьці. Вільня, застаючыся ў арэоле сьвятасьці, няўхільна прыцягваецца ў натуральны арэал беларушчыны.

**Сяргей Харэўскі**

*На здымках Алены Адамчык — сёньняшняя Вільня.*

Шарль Бадлер

# З кнігі «Парыскі сплін» маленькія паэмы прозаю

## Confiteor мастака

Як жа працінае душу восеньскае сутоньне! О! Працінае да болю, несучы адмыслова чароўныя адчуваньні, неакрэсьленыя і ўвадначас напружаныя, бо няма зброі, вастрэйшае за лязо Бясконцасьці. Якая гэта асалода — занурацъ свой пагляд у бязьмежнае неба й мора! Ціша й самота, беззаганная чыстасьць сінечы! Маленькі ветразь, што дрыжыць на гарызонце і сваёй мізэрнасьцю й адзінотаю так падобны да майго непапраўна загубленага жыцьця; манатонны сьпеў хваляў, — усё гэта мысьліцца мною ці, можа быць, само мысьліць праз мяне (у невымернасьці мрояў так хутка губляецца нашае «я»!); так, я сказаў «мысьліць празь мяне», але мысьліць музыкаю й вобразамі, без сафістыкі, без сылягізмаў, бяз довадаў. Аднак думкі гэтыя, што нараджаюцца ўва мне ці вынікаюць з навакольных рэчаў, у хуткім часе становяцца занадта напружанымі. Надмер асалоды выклікае неспакой і сапраўдную пакуту. Мае нэрвы нацягваюцца настолькі, што ў іхным трымценьні застаецца адно крык і боль.

І вось нябесная глыбіня ўжо мяне палохае, а празрыстасьць раздражняе. Бязжарснасьць мора, нерухомасьць пэйзажу абурае мяне: О! Няўжо я мушу вечна пакутаваць ці вечна ўнікаць красы? Прырода, няўмольная варажбітка, нязможная спадужніца, зьлітуйся нада мною! Пакінь спакушаць маю прагу і пыху! Спасьціжэньне красы — гэта двубой, дзе мастак крычыць ад страху й заўжды церпіць паразу.

## Блазан і Вэнэра

Які чароўны дзень! Вялізны парк млее ў пякучым праменьні вока дня, нібы маладосьць у абладзе Каханьня. Усеагульная раскоша не выдае сябе ніводным гукам; нават фантаны як быццам заснулі. Як жа розьніцца ад людзкіх сьвятаў гэтая маўклівая оргія!

Здаецца, што сьвятло, усё нарастаючы, выкрасае з прадметаў новыя й новыя водблікі-яскаркі; што кветкі ў захапленьні згараюць ад жаданьня перасягчы нябесны блакіт зыркасьцю сваіх фарбаў; што сьпёка робіць воды відочнымі, і яны смугою ўзносяцца да сонца.

Аднак сярод агульнай радасьці я ўгледзеў засмучаную істоту. Ля ног вялізарнай Вэнэры — адзін з прафэсійных вар'ятаў, самахотных блазнаў, чый абавязак — забаўляць каралёў, калі тых грызуць дакоры сумленьня ці проста нуда. Прыбраны ў бліскучы й фацэтны строй, у рагатай шапцы з званочкамі, увесь стуліўшыся каля п'едэсталу, ён падымае поўныя сьлёзаў вочы да несьмяротнае Багавіцы.

Ягоныя вочы кажуць: «Я сама няшчасны й самотны зь людзей, пазбаўлены каханьня й сяброўства, і праз гэтае мізарнейшы за апошнюю жывёлу. Але я, я таксама створаны, каб адчуваць і разумець неўміручую Красу! О, Багавіца, зьлітуйся над маім смуткам і маім шаленствам!»

Але няўмольная Вэнэра глядзіць немавед куды ўдалеч сваімі мармуровымі вачыма.

## Сабака й флякон

«Мой мілы сабачка, мой добры сабачка, любы мой, хадзі сюды й панюхай, якую выдатную парфуму набыў я ў найлепшага ў месьце парфумніка».

І сабака, матляючы хвастом, што, як мне ведама, у гэтых бедных істотаў адпавядае нашым сьмеху і ўсьмешцы, падыходзіць і зь цікавасьцю тыкае вільготным носам у адкрыты флякон; пасьля раптоўна ў страху падаецца задам і пачынае брахаць на мяне, нібы з дакорам.

«Ах ты, нікчэмны сабака! Калі б я прынёс табе пакунак з лайном, ты з асалодаю нюхаў бы яго, а магчыма б, і зжэр. Гэтым ты, нягодны паплечнік майго смутнага жыцьця, падобны да публікі, якой патрэбныя ня вытанчаныя водары, што адно раздражняюць яе, а старанна падабраныя гідкасьці».

## Паўсьвету ў валасах

Дазволь, я буду доўга, доўга ўдыхаць пах тваіх валасоў, зануруся ў іх тварам, як сасьмяглы ў крынічную ваду, буду ўскалыхваць іх, нібы напарфумаваную хустку, каб разварушыць рой успамінаў.

Калі б ты магла ведаць усё, што я бачу, што адчуваю, усё, што мне чуецца ў тваіх валасах! Мая душа вандруе ў водары, як душы іншых — у музыцы.

Твае валасы поўныя мрояў пра машты й ветразі, пра вялікія моры — мусоны нясуць мяне па іх у чароўныя краіны, дзе далячыні блакітнейшыя й глыбейшыя, а паветра прасякнутае пахам пладоў, лісьця й чалавечае скуры.

У акіяне тваіх валасоў мне бачыцца гавань у гуках сумных песень, дужыя мужчыны з усіх канцоў сьвету й караблі ўсіх кшталтаў, чые дасканалыя й складаныя сылюэты вырысоўваюцца на асноведзі вялізарных нябёсаў, дзе пануе вечная сьпёка.

У пяшчоце тваіх валасоў я зноў перажываю доўгія гадзіны ўтомнай, амаль што няўлоўнай партовай гайданкі, гадзіны, што я прабавіў на канапе ў каюце прыўкраснага карабля, між вазонаў з кветкамі й збаноў з прахаладнай вадою.

У пякучым вогнішчы тваіх валасоў я ўдыхаю водар тытуню, прыпраўлены опіюмам і цукрам; у ночы тваіх валасоў я бачу бясконцае зьзяньне тропічнай сінечы; на пушыстых узьбярэжжах тваіх валасоў я п'ю зьмяшаны пах смалы, мускусу й какосавага алею.

Дазволь, я ўвап'юся ў твае цяжкія чорныя косы. Калі я кусаю твае пругкія, непакорлівыя валасы, мне здаецца, я ем успаміны.

Якая зь дзьвюх сапраўдная?

Я пазнаёміўся з нейкай Бэнэдыктай, што жыла ў залатым бліску ідэалу; вочы яе выпраменьвалі прагу велічы, красы, славы і ўсяго, што прымушае нас верыць у несьмяротнасьць.

Але гэтая цудоўная істота была запекнай, каб жыць доўга; не прайшло й некалькіх дзён па нашым знаёмстве, як яна памерла; я сам пахаваў яе пэўнага дня, калі вясна кадзіла свой ладан нават на магілках. Я сам пахаваў яе, замкнуўшы ў труну з духмянага дрэва, незьнішчальнага, нібы індыйскія скрыні.

Вочы мае шчэ былі ўтароплены ў зямлю, дзе я закапаў свой скарб, як раптам я ўбачыў маладую асобу, надзвычай падобную да пахаванай. У дзіўным гістэрычным запале яна ўтоптвала рыхлую глебу й пырскала сьмехам, кажучы: «Гэта я, я сапраўдная Бэнэдыкта! Я, знакамітая агідніца! У пакараньне за тваю дурноту й сьлепату кахацьмеш мяне такою, якой я ёсьць!»

А я, як непрытомны, крычаў у адказ: «Не! Не! Не!» І, каб выразьней падкрэсьліць сваю нязгоду, топнуў так моцна, што нага мая па калена ўгрузла ў сьвежы дол. Быццам воўк, што трапіў у пастку, я застаўся — і, магчыма, назаўсёды —прыкаваны да магілы ідэалу.

## Стрэлішча і могілкі



# ТРЫ СЛОВЫ НЯМЫХ

*Працяг са старонкі 13*

Нямыя пачалі вохкаць і вахкаць, але маўчалі і неяк сплочвалі тыя падаткі. На бяду, у хуткім часе стаўся недарод; як нямыя сплацілі падаткі, самім мала чаго засталося. Пад восень у паселішчах нямых пачаўся голад. Вялікія групы іх прыходзілі да брамы палацу і позіркамі ды гукамі прасілі есьці. Але есьці ім не давалі. Іхныя ж суродзічы, што сталі прыслужнікамі, адганялі іх ад брамы, некаторых нават пабілі палкамі. Гэта былі першыя пабітыя на высьпе людзі, і тое выклікала гнеў. У паселішчах на плошчах перад каменнымі ідаламі стаў зьбірацца народ; узьнімаючы ўгару рукі, людзі прасілі заступіцца. Падобна, аднак, ідалы перасталі разумець нямых.

А голад між тым рабіўся невыносны. Соя і кукуруза зусім пагінулі на палёх ад сьпёкі, дажджу не было зь вясны. Пад восень наляцеў ураган, які бушаваў тры дні запар і заліў выспу так, што не засталося ні каліва. Пагінула шмат жывёлы і людзей. А жывыя зноў пайшлі да палаца.

У той час да гаваркіх прыехаў з-за акіяну іх галоўны правіцель — Вялікі Дэмагог. Гэта быў дужы, высокі мужчына з пагрозьлівым позіркам і вялікім ротам, які не зачыняўся ніколі. У першай жа сваёй прамове, сказанай у палацы, ён абвясьціў, што ад сёньня краіна называецца Народная Дэмагогія, пагражаў усім непаслушэнцам карай, шчыроўцам абяцаў узнагароды, галоўнай зь якіх была прывілея жыць. Прыкарытнікі зьзялі ад шчасьця, вядома ж, у спадзеўцы зарабіць найбольшую з прывілеяў.

Жыць на высьпе рабілася ўсё горш. Пасьля неўраджаю, голаду і ўрагану настаў мор. Нейкая злая пошасьць касіла нямых у іхных пальмавых паселішчах, нават не было каму хаваць мерцьвякоў. Жывыя пачалі рабаваць мёртвых. Насьпяваў вялікі маўклівы бунт, — супраць палаца, паліцыі, гарызантальнікаў і нават супраць ідалаў, якія адвярнуліся ад нямых. Улады з дапамогай вялізнае зграі прыкарытнікаў, што ўжо збольшага навучыліся мове гаваркіх, стараліся не дапусьціць гвалту. Дзясяткі іхных агітатараў пешшу і на мулах хадзілі й езьдзілі па паселішчах, угаворваючы нямых спадзявацца, трываць і маўчаць. Апошняе было самае важнае. Яшчэ нямым загадалі кожны дзень тры разы кланяцца ў бок палацу, паліцыянты сачылі, каб тое рабілі па-шчырасьці, а не прытворна. Тыя й стараліся рабіць пашчырасьці, але па-шчырасьці кепска атрымлівалася. Некаторыя з самых кемлівых пачалі ўжо заўважаць сілу, якая тоіцца ў слове прыгнятальнікаў, і бясьсільле ўласнае нематы. Адзін зь іх, сапраўдны глуханямы, у часе ранішніх паклонаў на плошчы перастаў кланяцца і нешта бязладна загаманіў-залементаваў да паліцыянтаў. Паліцыянты, вядома, такога непаслушэнства не маглі дапусьціць і накінуліся на яго з палкамі. Білі доўга й люта, глуханямы вырываўся й крычаў, ды марна. Пасьля раптам сьціх, здалося, сканаў.

Ля мерцьвяка сабраліся нямыя, хацелі несьці яго ў халупу, ды паліцыянты стаялі абапал і не пушчалі людзей. Атмасфэра на плошчы стала напружанай, чуўся лямант і гвалт, плакалі жанкі. І тады раптам нябожчык ускочыў, мусіць, каб бегчы. Але паліцыянты яго ўхапілі й зноў пачалі біць. І менавіта ў такі момант, мабыць, канаючы, глуханямы выразна й гучна крыкнуў:

— Каб вы здохлі!..

Усе на плошчы зьнямелі, здранцьвелі, гул і лямант разам спыніўся. Жах узьвіўся ў паветры і ўразіў паліцыянтаў. Сьпярша тыя два, што трымалі глуханямога, а пасьля й яшчэ два побач, бы драўляныя чурбаны, упалі патыліцай аб зямлю й не краналіся болей.

Тады людзі, гнаныя зьдзіўленьнем і жахам, кінуліся да глуханямога, ды ён і сапраўды быў мёртвы. Яго аднеслі ў халупу, і ён доўга ляжаў там непахаваны. Яго баяліся хаваць, бо адчулі ў ім вялікую, непазнаную сілу. Ад таго часу глуханямы стаўся першым апосталам нямога народу.

Трагедыя ў паселішчы стала такой ашаламляльнай, што нямыя на нейкі час забыліся пра ўсе няшчасьці — голад, хваробы і ўраган. І нават на белы палац. Усе думалі пра словы, якія глуханямы панёс з сабой у магілу. На нейкі час улады таксама прыціхлі. Вялікі Дэмагог, які кожны дзень чытаў свае пагрозьлівыя літаніі, тры дні маўчаў. Пасьля зьявіўся ягоны ўказ, якім навек забаранялася быццам бы паскудная мова нямых, а ягоныя гарызантальнікі ў мэтах бясьпекі перайменоўваліся на ВЭРТЫКАЛЬНІКАЎ.

Ды, відаць, было позна. Старыя зь ліку нямых пачалі ўспамінаць забытыя паданьні яшчэ болей старых, якія быццам бы сьведчылі, што й на высьпе некалі была мова. І нават прыпаміналі некаторыя словы, як напрыклад, СВАБОДА і ВОЛЯ. Некаторыя з выгнаных з палаца прыкарытнікаў, што навучыліся там чытаць і пісаць па-дэмагогаўску, займеўшы шмат вольнага часу, пачалі распрацоўваць мову нямых. Асабліва ахвочай да таго стала моладзь. Мінула паўгода, і ў паселішчах ноччу, у полі ці ў моры на рыбным лове стала чуваць галасы. Нямыя пераставалі быць нямымі. Пад вялікім сакрэтам ад паліцыянтаў і вэртыкальнікаў бераглі ў памяць тры словы глуханямога. Тых словаў баяліся, бы зараджанай зброі, ведаючы, што зараджаная зброя некалі страляе. Тое разумелі нямыя, прыкарытнікі і ўсе гаваркія. І апошнія не драмалі. Побач з палацам была тэрмінова збудавана турма, бы пчаліныя соты, разьдзеленая на цесныя каморкі, куды саджалі нямых, каб тыя не размаўлялі. Была створаная разгалінаваная Служба Бясьпекі (СБ), што вэрбавала стукачоў. Стукачам плацілі гарнец маісу за кожны данос, — пры голадзе тое была немалая плата, і недахопу ў стукачах не адчувалася. Тым болей, што іхная праца мела зусім легальны характар, і ўсе яны былі аб'яднаныя ў прафэсійны Саюз Стукачоў (СС). Для далейшага дасканаленьня працы вэртыкальнікаў апошнія атрымалі новую геамэтрычную назву — ДЫЯГАНАЛЬНІКАЎ і пажыцьцёвы службовы статус. Паліцыянтам на 30 см. падаўжаліся баявыя бамбукавыя палкі і на 5 см. падымаліся тульлі фуражак, каб самыя недамеркі выглядалі ня горш за гігантаў. На крэдыты міжнародных банкаў была закуплена зброя масавага паражэньня і кампутарная тэхніка. Для яе абслугоўваньня прыехалі кадры з былых сацкраін, адкуль з прычыны тамтэйшае крызы пачалася няспынная выцечка навуковых мазгоў. Зухаватыя спэцыялісты заняліся дасьледаваньнем апошняй у сьвеце недасьледаванай праблемы — узаемазалежнасьці дэмагагічнай улады і дзікунскае мовы. На дзясятках эўрапейскіх, азіяцкіх, гішпанскіх ды палінезійскіх мовах аналізаваліся тры магічныя словы, якія забілі чатырох паліцыянтаў. У той матэматычнай непрапарцыйнасьці і палягала навуковая загадка веку.

Аднак мінаў час, а выніку тае працы не было ніякага. І тады Служба Бясьпекі Вялікага Дэмагога (СБВД) дазналася, што тыя вучоныя розных навук ёсьць спрэс спэцыялісты ў кантынэнтальных ракетах (СС-20) ды комлексах «Таполя». Разумеючы шмат чаго ва ўладзе і ракетах, яны амаль нічога не разумелі ў мовах, тым болей, у мовах нямых. Разлаваны Вялікі Дэмагог прагнаў іх усіх з высьпы, пакінуўшы аднаго — самага шчырага маладога ракетчыка (які ў тым і прызнаўся), каб ён служыў у якасьці звычайнага шафёра — абы мець зарплату ў далярах. Праз год, аднак, высьветлілася, што той ракетчык-шафёр зусім не ракетчык і не шафёр, а кадравы палкоўнік савецкага КГБ. Вялікі Дэмагог уласнаручна адсек яму галаву.

Сярод нямых таксама знайшліся разумныя людзі, да іх спакваля далучыліся некаторыя са звольненых за розныя правінкі з палацу. Была складзена таемная да ўлады апазыцыя. Яна нарадзіла падпольны навукова-моўны гурток, які заняўся вывучэньнем магічнасьці ўзнакамітага праклёну, — вядома ж,

